


# Краязнаўчая газета

№ 9(26)
Сакавік 2004 года

Выдаецца з красавіка 2003 года

## У нумары:






## І Італія клапоціцца

Мы пісалі ўжо, што розныя дабрачынныя суполкі з многіх заходнееўрапейскіх краін, з Германіі, Францыі, Ірландыі, Нарвегіі і іншыя праяўляюць шчыры клопат пра беларускіх дзяцей, якія пацярпелі ад чарнобыльскай аварыі ці па нявшчасці сталі сіротамі, а то і інвалідамі.

У ліку названых краін і Італія. У студзені гэтага года мелі магчымасць адчуць цяпло яе сонца, водаў, людскіх сэрцаў больш за 100 навучэнцаў Пінскай школы-інтэрната для дзяцей-сірот. Пасля канікул больш за палову з іх вярнулася ў родны горад, а астатнія яшчэ засталіся на гасціннай італьянскай зямлі на два месяцы, дзе з імі будуць працягваць вучобу беларускія і італьянскія настаўнікі. Беларускія дзеці жывуць у італьянскіх сем'ях, якія з году ў год выдзяляюць дзеля гэтага сваё жыллё, праяўляюць клопат пра здароўе нашага маладога пакалення.

## НОВЫЯ АРХЕАЛАГІЧНЫЯ ЗНАХОДКІ

### Ў ЧЭРЫКАЎСКІМ ПАСОЖЖЫ

***У 2002–2003 гадах пад кіраўніцтвам А. В. Коласава на тэрыторыі Чэрыкаўскага раёна абследаваліся археалагічныя помнікі . Мэтаю археалагічнай разведкі былі ўлік і высвятленне ступені захаванасці вядомых і пошукі новых помнікаў археалогіі.***

Было даследавана і вывучана 57 помнікаў, з іх 34 – новыя, раней не вядомыя навуцы! Гэта 15 стаянак каменнага і бронзавага вякоў, 12 пасяленняў ранняга жалезнага веку і эпохі Сярэднявечча, 2 курганныя могільнікі, тры адзіночныя курганы, яма для спальвання вуглю.

Паблізу горада Чэрыкава, у міжрэччы Сожа і Удогі, было выяўлена 6 стаянак каменнага і бронзавага вякоў, сем пасяленняў часоў феадалізму. Найбольш цікавыя матэрыялы знойдзены на стаянцы часу мезаліту, якая знаходзіцца на левым беразе безыменнага ручая (левы прыток р. Удога), за 0,9 км на захад ад хлебазавода, за 0,8 км на паўднёвы ўсход ад аб'язной дарогі Магілёў – Крычаў. Тут былі сабраныя адшчэпы і пласціны, аднапляцовачныя нуклеусы, асіметрычны наканечнік стралы, чаранковая нарыхтоўка, вастрыё, канцавыя скрабкі і скрабок з "шыпом", вырабы з выемкай. Знойдзены шматлікія фрагменты ганчарнай керамікі і вырабы са шкла. Апошнія, у прыватнасці, дэманструюць усе стадыі гутніцтва – ад спаяных нарыхтовак да гатовых вырабаў (абломкі аконнага шкла, посуду), якія пакрыты пацінай і маюць паветраныя пухіркі ўсярэдзіне.

*(Заканчэнне на стар. 2.)*

*Мінуўшчына прафесіі*

## Ад часоў ручных помпаў і пажарных добраахвотнікаў

У Цэнтральным раёне сталіцы шмат выдатных помнікаў даўніны. Тут, непадалёк ад Траецкага прадмесця, знаходзіцца і стары будынак пажарнага дэпо на Гарадскім вале.

Цяперашняя вуліца Гарадскі вал – старажыл горада. Яна з'явілася на пачатку XIX стагоддзя на месцы землянога вала і ў розныя часы называлася Раманаўскай, Старараманаўскай і Новараманаўскай.

Змагары з агнём лічаць яе сваёй з 21 лістапада 1885 года, калі тут зладзіла наваселле Менскае вольнае таварыства пажарных добраахвотнікаў. Створана яно ў 1876 годзе, пры ім была дружына (140 чалавек) для выезду на пажары. З маёмасці – 4 пажарныя помпы, 8 бочкавых хадоў, багорны ход, ручная механічная лесвіца, выратавальны мех.

Аднапавярховае з мезанінам цаглянае дэпо пабудавалі ў 1885 годзе ў модным тады стылі мадэрн за дзевяць месяцаў. І адразу ж новая пабудова стала "парушальнікам спакою" на Раманаўскай і суседняй Праабражэнскай вуліцах. У горад, спрэс забудаваны драўлянымі дамамі, пажары наведваліся часта. Таму часта біў звон на фасадзе новага дэпо. З ягонай брамы на брукаваную маставую выкатваліся конна-бочкавыя хады. Хуткія скакуны за чатыры хвіліны давозілі пажарных на Саборны пляц (цяпер – пляц Волі). Дзесяткі, сотні разоў хвацкія малойцы ратавалі горад ад агню. А ў 1906, 1909, 1915 гадах яны прыйшлі на дапамогу жыхарам кварталаў, затопленых Свіслаччу.

На пачатку XX стагоддзя будынак набыў сучасны выгляд.

Члены добраахвотнага пажарнага таварыства актыўна ўдзельнічалі ў папярэджанні і тушэнні пажараў. І ў 1926 годзе, на 50-годдзе пажарнай службы, ад урада атрымалі ўзнагароду – ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Архіўныя дакументы сведчаць, што сваю пажарную каманду горад меў і да 1853 года. А ў 1919 годзе праходзіць першы з'езд пажарных арганізацый губерні.

Сёння Мінскі гарнізон МНС – высокаразвіты адладжаны механізм, гатовы ў любое імгненне даць адпор вогненнай стыхіі. Кожнае дзеянне выратавальнікаў тэстуецца па часе. Сістэма трэнінгу – ад акадэмічных навучальных у аўдыторыі да штодзённых трэніровак на баявым дзяжурстве. Тэхніка гатовая стопрацэнтова – і баявая, і рэзервовая. А па трывозе выезд ажыццяўляецца за 30 – 40 секунд.

Цяперашнія прыярытэтныя задачы гарнізона – штодзённая праца па зніжэнні колькасці пажараў, іх верагоднасці, змяншэнні колькасці загінулых ды пакалечаных людзей. А тут ужо і кожны чалавек можа спрычыніцца да барацьбы з агнём.

***Тамара ДУБРОВЕНСКАЯ,***
***старшы інспектар Цэнтральнага РАНС г. Мінска***

Дзякуй даўнім і новым сябрам нашай газеты! Мы радыя, што нас становіцца болей. Давайце ж пашырацыь нашую сябрыну – цяпер ідзе падпіска на другі квартал. Не губляйцеся ў вялікім свеце сучаснай мітусні!

**Падпісныя індэксы і кошты:**
**індывідуальны – 63320 (3 300 рублёў на месяц), ведамасны – 633202 (3 409 рублёў на месяц).**

***"... і дзякуй скажа родны край"***



***Полацк (першае ўпамінанне пад 862 годам), Віцебск (каля 974 года), Тураў (каля 980 года), Полацкае і Тураўскае княствы – тыя нашы гарады, утварэнні дзяржаўнага тыпу, што з тых, даўніх часоў вызначалі лёс сённяшняй нашай Беларусі – у фарміраванні сваіх зямель і гісторыі, мовы, культуры і мастацтва.***

## Яшчэ раз у Тураў

Першыя гістарычна вядомыя асобы – полацкі князь Рагвалод і тураўскі князь Тур, якім мы, нашчадкі, абавязаны паставіць помнікі як першым нашым дзяржаўцам ці на агульным помніку буйным нашым дзяржаўным дзеячам розных эпох назваць іх імёны першымі ў спісе.

Па-рознаму склаўся лёс Полацкай і Тураўскай зямель, у XI і XII стагоддзях пачалі ўзвышацца выдзеленыя з іх княствы, а ў XIII стагоддзі галоўную ролю па аб'яднанні і ўмацаванні сённяшняй Беларусі ўзяў на сябе ацалелы ад татара-мангольскага нашэсця і суседскіх пасягненняў Навагародак (Навагрудак). Магутны Полацк саступіў Навагародку, Вільні, Віцебску і Мінску, а Тураў у выніку гістарычных абставін увогуле апынуўся мястэчкам у сённяшнім Жыткавіцкім раёне, дзе самым старажытным помнікам лічыцца Усясвяцкая царква XIX стагоддзя.

Ды памяць захавала: у Тураве жыў і дзейнічаў Кірыла Тураўскі (каля 1130 – каля 1182) – буйнейшы і найславуты старажытны пісьменнік і прапаведнік, святар, майстра аратарскай прозы, які зрабіў велізарны ўплыў на ўсю ўсходнеславянскую свядомасць і культуру. Яго называюць у ліку аўтараў знакамітай паэмы "Слова пра паход Ігаравы".



*Фота Сяргея ПАНІЗЬНІКА*

Безумоўна, найперш з-за павагі да старажытных Турава, яго пастаяннага імкнення да незалежнасці (яе прыкладна ў 1158 годзе сцвердзіў князь Юрый Яраславіч – праўда, ягоныя сыны княства раздрабнілі), з-за ўшанавання залатавуста Кірылы Тураўскага нашым урадам вырашана, што сёлета Тураў другі раз стане цэнтрам правядзення Дзён беларускага пісьменства. Кірыла Тураўскі з помнікам на беразе Прыпяці, канечне, будзе вітаць тых, хто ведае шмат, але шануе сваю гісторыю, мову і культуру.

# НОВЫЯ АРХЕАЛАГІЧНЫЯ ЗНАХОДКІ

## Ў ЧЭРЫКАЎСКІМ ПАСОЖЖЫ

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

Падчас вывучэння помніка адкрыты два кампактныя скапленні крэмневых артыфактаў. Адно з іх месціцца ў 20 – 30 м заходней броўкі тэрасы, паўночней урочышча Круты Роў (40 м ад краю яра) і дарогі на в. Мірагошч, што ідзе ў бок р. Сож. Другое скапленне крэмняў знаходзіцца ў 60 – 70 м на захад ад першага. Варта адзначыць, што знаходкі першага скаплення пацінізіраваныя, іх памеры ў даўжыню складаюць ад 3 да 5 см і болей пры шырыні 1,5 – 3 см, у той час як даўжыня адшчэпаў і пласцін другога скаплення меншая – ад 1 да 3 см пры шырыні 1 – 1,2 см і таўшчыні 0,3 – 0,5 см. Магчыма, можна гаварыць пра розначасовыя археалагічныя комплексы знаходак.

На працягу 2002 – 2003 гг. намі вёўся збор пад'ёмнага матэрыялу на стаянцы каменнага і бронзавага вякоў (адкрыта ў 1999 г. А. В. Коласавым), размешчанай на правым беразе р. Удога на паўночна-ўсходняй ускраіне горада. На сённяшні дзень калекцыя прадметаў налічвае болей за 400 экземпляраў. У іх ліку прадукты расшчаплення крэменю, канцавыя скрабкі, разцы, вырабы з выемкай, пласціны-ўкладышы, праколка, серпавідныя вырабы і вырабы, прызначаныя для рубкі, а таксама фрагменты ляпной керамікі, арнаментаванай ёлачнымі кампазіцыямі, і сасудаў, выробленых на ганчарным крузе (селішча часоў феадалізму).

Знаходкі ў межах горада фрагментаў ганчарнай керамікі – гаршкоў, макатроў, місак, ляпных грузілаў, ізразцоў, абломкаў аконнага шкла, нацельнага абразка – археалагічна пацвярджаюць існаванне даволі развітага паселішча ў Чэрыкаве ў XVI – XVIII стагоддзях.

Добрыя вынікі дало вывучэнне басейна р. Сянна каля в. Пільня (Вепрынскі сельскі савет). На левым беразе Сянны, пачынаючы з паўночна-заходняй ускраіны вёскі, было адкрыта чатыры стаянкі каменнага і бронзавага вякоў і тры селішчы эпохі Старажытнай Русі і больш позняга часу. Паблізу вясковых неўмацаваных пасяленняў, за 1,9 км на паўночны захад ад в. Пільня, у 18 м паўднёвей дарогі Ушакі – Пільня, у лесе ва ўрочышчы Пуцявічча знойдзены адзіночны курган паўсферычнай формы. У плане насып мае акруглую форму – 1,8 м у вышыню і 16 м у дыяметры.

Важным з'яўляецца адкрыццё пабудовы для атрымання драўніннага вугалю. Гэта першы падобнага роду помнік на тэрыторыі Чэрыкаўшчыны. Знаходзіцца ён на правым беразе р. Сянна, за 1 км на паўночны ўсход ад в. Пільня, у лесе. Пабудова ўяўляе сабою яму памерам 4,5х8 м і глыбінёю да 0,7 м, па перыметры яна акружана падкавападобным валам 21 м у даўжыню і 0,9 м у вышыню. З паўночна-заходняга боку прагледжваецца ўваход.

На тэрыторыі Язёрскага сельскага Савета ў наваколлі в. Прыпёчына, на правым і левым берагах р. Лабчанка, знойдзены селішча і два адзіночныя курганы. Адно з пахаванняў размешчана на правым беразе р. Лабчанка, за 0,9 км на паўночны захад ад вясковых могілак, непасрэдна ў вёсцы. Другі курган – у лесе, на левым беразе р. Лабчанка (0,2 км), за 1,1 км на паўночны захад ад могілак, у 800 м паўднёва-ўсходней ад безыменнага ручая, левага прытока рэчкі. Мясцовае насельніцтва называе гэтыя славянскія пахаванні «Шведскія курганы».

«Шведскія магілы» – каля 25 насыпаў, – па сведчаннях жыхароў в. Рагаліна, знаходзіліся ў 150 м на ўсход ад вёскі і ў 0,2 км на поўнач ад дарогі Рагаліна – Прыпёчына. У час абследавання гэтага месцазнаходжання былі выяўлены фрагменты ляпной і ганчарнай керамікі, шкла зялёнага колеру, абломкі кальцыніраваных касцей. Акрамя гэтага, былі сабраны адшчэпы і пласціны, пласціны з рэтушшу, што з'яўляецца неабвержным сведчаннем пражывання чалавека ў гэтай мясцовасці ў каменным веку.

На тэрыторыі раёна на сёння вядома 17 курганных могільнікаў. Сустракаюцца адзіночныя курганы, як, напрыклад, каля вёсак Міхайлін, Прыпёчына, Рэчыца, Тур'е. Даволі часта яны групуюцца па 2 – 10 і болей курганных пахаванняў: Горкі-1 (9 насыпаў), Грамабой (44 насыпы), Гронаў-1 і Гронаў-2 (адпаведна: 2 насыпы, даследаваны ў 2003 г.; 74 насыпы), Журавель (41), Жытнеў (7), Охар (12), Пілёнка (15), Ушакі-1, Ушакі-2, Ушакі-3 (12, 46, 5 насыпаў), Чэрыкаў (12), Юны Араты (4).

У 2003 г. каля в. Горкі (Сармоўскі сельскі Савет) быў знойдзены адзін з буйнейшых курганных некропаляў на тэрыторыі Чэрыкаўскага раёна. Помнік апісаны А. В. Коласавым і С. В. Сілковым паводле вуснага паведамлення настаўніка СШ № 1 г. Чэрыкава А. М. Марозава. Ён размешчаны на правым беразе р. Сож, у 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, у 1,7 км на паўночны захад ад былой в. Журавель, у 1,2 км на паўднёвы ўсход ад шашы Чэрыкаў – Слаўгарад, у 0,8 км на паўночны захад ад кар'ера і былых ачышчальных збудаванняў, у лесе ва ўрочышчы Марозава.

У могільніку налічваецца 119 насыпаў паўсферычнай формы, акруглых у плане, у вышыню ад 0,4 да 2,5 м, у дыяметры 5 – 20 м. Каля падножжа курганоў праглядаюцца ровікі з перамычкай, кальцавыя ровікі. Сустракаюцца насыпы з пласкаватай вяршыняй, формы ўсечанага конуса. Курганныя пахаванні задзірванелі, параслі кустоўем і дрэвамі.

На жаль, 96 насыпаў парушаны ямамі, якія зрабілі шукальнікі скарбаў. У адным з насыпаў, парушаных траншэявіднай ямай, прагляdaліся напластаванні жоўтага пяску (0,10 – 0,15 м), якія перакрываліся праслойкамі зямлі цёмна-шэрага колеру (таўшчынёю 2 – 3 см). Такіх напластаванняў ад аснавання ямы было 7, што, магчыма, з'яўляецца вынікам падсыпкі.

Новыя помнікі археалогіі былі адкрыты і ў ваколіцах вёсак Гронаў (Вепрынскі сельскі Савет) і Мірагошч (Сармоўскі сельскі Савет). Найбольш цікавыя матэрыялы атрыманы на стаянцы эпохі неаліту Гронаў-7, якая знаходзіцца на левым беразе р. Сож, за 1,2 км на захад ад вёскі, у 150 м заходней газаразмеркавальнай станцыі. Стаянка адкрыта і даследавана аўтарамі артыкула.

Пасяленне размешчана на першай надпойменнай тэрасе і займае ўчастак выгаралага лесу, разоранага пад новую лесапасадку; у выніку пажару і ворыва быў патрывожаны культурны пласт. Знаходкі збіраліся на адрэзку 200 м уздоўж броўкі тэрасы на развеяных пясках жоўтага і светла-жоўтага колеру: шматлікія адшчэпы, пласціны, фрагменты ляпной керамікі бурага і шэра-бурага колеру, старанна загладжанай, а ў асобных выпадках са слядамі расчосаў грэбеня на ўнутранай паверхні. Адзін з фрагментаў арнаментаваны адбіткамі грэбеня.

У некаторых мясцінах канцэнтрацыя знаходак дасягала 10 і болей экземпляраў, асабліва там, дзе былі выкарчаваны дрэвы, пасля чаго захаваліся ямы. Сярод найбольш цікавых знаходак з крэменю трэба адзначыць ліставідны наканечнік дроціка, апрацаванага з двух бакоў спосабам абіўкі і чашуйчатай рэтушшу, вастрыё трохвугольнай формы з апрацаваным тонкай рэтушшу аснаваннем, адшчэпы з рэтушшу.

На жаль, не ўсе археалагічныя помнікі дайшлі да нас добра захаванымі. Многія з іх знішчаны або разбураюцца зараз. Асабліва выразна гэта відаць на прыкладах старажытных курганоў, знішчэнне якіх звязана не толькі з гаспадарчай дзейнасцю, але і раскопкамі шукальнікаў скарбаў. З 15 курганоў каля в. Ржавец, вядомых яшчэ ў 1873 г., засталося 4; з 3 курганоў каля в. Рэчыца захаваўся толькі 1, які пастаянна абворваецца, але нават і гэта магіла зведала рыдлёўкі «гора-археолагаў».

Частка курганоў знішчана кар'ерам каля в. Гронаў, але ж сярод мясцовага насельніцтва існуе легенда пра «схаваны скарб у сто першым кургане». Такі ж лёс спасціг курганны могільнік в. Піленка. Кар'ерам разбурана і гарадзішча в. Тур'е.

Асобныя насыпы курганных некропаляў каля вёсак Горкі, Грамабой, Жытнеў, Журавель, Камаровічы, Ушакі пашкоджаны раскопкамі шукальнікаў скарбаў.

***Археалагічнае вывучэнне старажытнасцяў Чэрыкаўскага раёна ў 2002 – 2003 гг. дазваляе папоўніць не толькі пісьмовыя крыніцы, але і атрымаць важныя звесткі пра развіццё матэрыяльнай і духоўнай культуры, умовы побыту і звычаі старажытнага насельніцтва. Пагэтаму каштоўнасць матэрыялаў, атрыманых у выніку навуковых даследаванняў, істотная. І наша агульная мэта – захаваць гістарычную і культурную спадчыну ад варварскага знішчэння і абыякавасці да памяці пра нашых продкаў.***

***А. КОЛАСАЎ,***
***аспірант Інстытута гісторыі НАН Беларусі,***
***С. СІЛКОЎ,***
***слухач ПА МДУ імя А.А. Куляшова***





Ініцыятывы

## Чорная ікра – з радзівілаўскіх мясцін?

Чорнай ікрою ласуюцца не толькі тыя, хто яе вельмі любіць, яна найперш патрэбна аслабелым для папраўкі здароўя. Таму на яе і ў нас, і за мяжой заўсёды вялікі попыт.

Адны хацелі б яе набыць (зразумела, не па звышдарагой цане), а іншыя – дапамагчы ім у гэтым і, не сакрэт, зарабіць. Мабыць, апошнее зажадаў спалучыць мінчанін Вікенці Макарэвіч, які вырашыў заняцца незвычайным рыбным промыслам. На Нясвіжчыне ў адным з калгасаў ён утварыў басейн, дзе пачаў разводзіць асятроў, думаць-разважаць, як для іх біялагічна і кіслародна насычаць ваду, падагравать яе і ратаваць ад розных хвароб.

Ікорнае багацце яшчэ не хутка апшчасліваць нясвіжцаў ды іншых, але ёсць надзея: кажуць, у мясцовых вадаёмах жыве ўжо больш за тры сотні асятроў, і яны могуць распладзіцца, выжыць і саспець для ікры. Абы тыя асятры дачасна не трапілі на кручок ці ў браканьерскую сетку.

*Белы Ковель па-над вадою... Рэшткі Смалянскага замка*



Фота Уладзіміра ПУЧЫНСКАГА

Незвычайны музей

# Эпохі і грошы

***Безумоўна, што кожны чалавек у нашай краіне бачыў грошы, валодаў імі, разлічваўся пры гандлі. Але калі задаеш сабе пытанне, што ты ведаеш пра гэтыя рознакаляровыя паперкі, пра іх гісторыю, пра ўзнікненне і развіццё ашчадных устаноў у краіне, то разумееш, што літаральна нічога пра грошы не ведаеш. Яшчэ больш упэўніваешся у гэтым, калі трапляеш у музей "Беларусбанка", што створаны ў 2002 годзе руплівым гісторыкам і заснавальнікам не аднаго музея на нашай Бацькаўшчыне – Мікалаем Сінькевічам. У невялічкай утульнай зале змешчана шмат цікавых экспанатаў, фотаздымкаў і дакументаў, якія адлюстроўваюць гісторыю развіцця народнага банка на Беларусі.***

Вельмі цікавая экскурсія захапляе слухача з першай хвіліны і дапамагае ўліцца ў імклівы бег гісторыі нашага краю. Натуральна, што ў гэтым музеі яна падаецца праз эканамічныя адносіны ў беларускім грамадстве. Нават чалавек, які дрэнна валодае гісторыяй і эканомікай, з аповеда Мікалая Васільевіча разумее ўсё вельмі добра.

Самыя ж першыя словы яго, безумоўна, пра пачатак стварэння банкаў на Беларусі. Адбылося гэта паводле ўказа Мікалая I ад 30 кастрычніка 1841 года, якім ён загадаў стварыць ашчадныя касы "па шанаванні карысці, якую яны змогуць прынесці". Таксама былі створаны новыя грашовыя білеты, якія наведвальнікі музея могуць нават патрымаць у руках і разгледзець іх больш уважліва. Адчуваеш пры гэтым, як дакранаешся да гісторыі, уяўляеш сабе людзей, якія імі карысталіся, час, у які гэтыя паперкі мелі вялікую каштоўнасць. Дарэчы, у Расіі яны мелі кошт аднолькавы з золатам.

Але прайшоў час, і неўзабаве пачалася Першая сусветная вайна, а за ёй – дзве рэвалюцыі, што, апрача людскіх ахвяр, голаду ды хвароб, прынеслі таксама поўнае разбурэнне фінансавай сістэмы.

У такіх умовах Савецкая ўлада намагалася як мага хутчэй стварыць ашчадныя касы, каб упарадкаваць эканамічныя адносіны і стварыць матэрыяльную базу для ўздыму гаспадаркі. Дарэчы, адным з першых кліентаў ашчаднай касы ў нашай краіне стаў любы песняр Беларусі Янка Купала. 23 мая 1923 года ў былым Доме працы на пляцы Волі ён паклаў ганарар за свой зборнік "Спадчына" на ашчадную кніжку.

У гэты ж час былі таксама выпушчаны білеты Дзяржбанка СССР, сярод якіх былі знакамітыя чырвонцы. Тады існавала шмат дзяржаўных займаў і латарэй. Іх мэтай было сабраць неабходныя сродкі на адбудову прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Для агітацыі малявалася шмат плакатаў, што праз пэўныя жыццёвыя сітуацыі заклікалі грамадзян укладаць грошы ў ашчадныя касы, набываць абліґацыі і прымаць удзел у латарэях. У зменшаным выглядзе некаторыя з іх знаходзяцца зараз у экспазіцыі музея.

Таксама і падчас Другой сусветнай вайны сродкі на яе правядзенне дзяржава знаходзіла праз ваенныя займы. Людзі, што не былі на фронце і ў акупацыі, збіралі апошнія капейкі, каб набыць абліґацыі і такім чынам дапамагчы салдатам, што мужна змагаліся з ворагам. Захаваліся займы і пасля вайны, бо вялікія грошы тады ішлі на аднаўленне народнай гаспадаркі. Дзякуючы гэтым займам пакупнікі маглі таксама выйграць грошы або аўтамабіль.

Пазней, у 60 – 80-я гады, грамадзяне нашай краіны ўдзельнічалі ў шматлікіх латарэях і дзякуючы ашчадным касам збіралі грошы на патрэбныя рэчы. Ды і зараз, напэўна, шмат людзей памятаюць, што асноўная частка іх сродкаў знаходзілася ў ашчадных касах.

Пасля распаду СССР у нашай краіне былі выпушчаны новыя грашовыя білеты незалежнай рэспублікі – знакамітыя "зайчыкі" і побач з Ашчадным утварылася шмат камерцыйных банкаў. Самы буйны з іх быў "Беларусь", які ў 1995 годзе па загадзе Прэзідэнта аб'ядналіся з Ашчадным банкам. Так утварыўся АСБ "Беларусбанк", які паспяхова развіваецца і сёння, ствараючы ўжо сучасную гісторыю, што таксама займае сваё месца ў экспазіцыі музея. Гэта і біяграфія ў здымках яго кіраўніка – Надзеі Ермаковай, і культурнае жыццё супрацоўнікаў банка, і досведы яго дабрачыннай дзейнасці. Адным з самых незвычайных экспанатаў музея, на мой погляд, з'яўляецца сцяг з лагатыпам банка, што пабываў на Паўднёвым полюсе Зямлі!

І ўвогуле ўся экспазіцыя музея з'яўляецца адным з доказаў таго, што з нашай зямлёй "Беларусбанк" яднаюць глыбокія гістарычныя карані. Гэты банк – своеасаблівая стужка, што яднала паміж сабой дзяржаву і народ на працягу двух стагоддзяў. А вывучэнне ашчаднай справы дае унікальную магчымасць кожнаму злучыць паміж сабой розныя гістарычныя эпохі праз фінансава-эканамічныя зносіны ў грамадстве.

Такі падыход да вывучэння нашай гісторыі, я лічу, заслугоўвае належнай увагі з боку вучоных і краязнаўцаў. А стварэнне музея "Беларусбанк" з'явілася адной з першых прыступак гэтага шляху, на якой ужо стаіць кожны наведвальнік музея. Бо калі аналізуеш расповед экскурсавода, дакранаешся ўласнымі рукамі да гістарычных рэчаў, уважліва разглядаеш экспанаты і з дапамогай Мікалая Васільевіча праз іх аналізуеш змены ў грамадстве, проста немагчыма застацца абыякавым да ашчаднай справы на нашай Бацькаўшчыне. Узнікае ўражанне, быццам чытаеш цікавую кнігу, якая толькі пачала друкавацца ў нашыя дні і да якой кожны з нас таксама можа дадаць колькі слоў сваіх даследаванняў і разважанняў для нашчадкаў.

***Ларыса ДАРАШЭНКА,***
***вучаніца СШ № 159 г. Мінска***

# Хачу расказаць у кнізе

***Чалавек, што зорка: свеціць, свеціць, а падаючы, пакідае след. Зоркавы след імгненны, а чалавечы – даўгавечны, бо застаецца ў справах яго паплечнікаў і сяброў.***

***Які след пакідаем мы? Што карыснага робім у жыцці? Што застанецца пасля нас?***

***Можа, у наш час гэтыя пытанні здаюцца вам дзіўнымі, але мне б хацелася адказаць на іх расказамі-споведдзю пра маіх землякоў, іх справы і жыцці, пра прафесіяналізм, пошукі і адкрыцці, планы і здзяйсненні – увогуле, паразважаць над сэнсам чалавечага жыцця – напісаць пра ўсё гэта кнігу.***

## Мае землякі

Галоўныя героі, на першы погляд, звычайныя людзі, але, мабыць, валодаюць яны нейкай сілай, натхненнем, адчуваннем сваёй патрэбы і карысці, маючы ў руках дараванне працаваць, у галаве – розум, а ў сэрцы – пачуцці.

Яшчэ адной важнай рысай характару валодаюць мае героі – адказнасцю за справу, якую ім даручылі, адказнасцю за людзей, якімі кіруюць.

Сярод шматлікіх вобразаў землякоў, з кім давялося працаваць, супрацоўнічаць, сябраваць, сустракацца, вырашаць сумесна пытанні, вучыцца ў іх, я выбрала тых, хто застаўся ў памяці людзей, каго заўжды ўзгадваюць з павагай і гонарам, хто звязаў з Шацкам сваё дзяцінства, юнацтва, сталыя гады, хто аддаў свае веды, стараннасць і працу землякам, хто ўспрымаў в. Шацк як сваю радзіму, дзеля якой чалавек гатовы на высакародныя ўчынкі і самаахвяраванне.

Няхай прабачаць мне землякі, каго не назаву, але я хацела б, каб мой твор стаў своеасаблівым летапісам пра ўсіх нас, хто нарадзіўся і вырас тут, хто прыехаў працаваць у гэтыя мясціны, хто аддаў свае лепшыя гады, працуючы тут.

Дык хто ж яны, мае героі?

Гэта – настаўнікі і ўрачы, рабочыя і калгаснікі, кіраўнікі і простыя людзі, абаронцы Айчыны і народныя абраннікі, таленавітыя, паважаныя, вядомыя людзі.

Першая частка маёй кнігі прысвечана маім калегам, яна так і называецца "Маім калегам прысвячаю". Прысвячаю тым людзям, у кагo я вучылася, з кім працавала. Дзякуючы ім я абрала прафесію настаўніка і хачу расказаць пра настаўнікаў Шацкай СШН. М. Паўлаву, М. П. Вайцэховіча, І. П. Чуйкову, Г. А. Нікіціну, З. А. Іванову, Я. П. Шэлег, М. М. Баканаву, А. І. Бароўскую і многіх іншых.

Другая частка маёй кнігі прысвечана людзям важнай і неабходнай прафесіі – медыкам. "Людзям у белых халатах" – так гучыць назва другой часткі. Добрымі, цёплымі, шчырымі словамі падзякі ўспамінаюць працу ў Шацкай сельскай бальніцы ўрача Д. І. Лабанка, акушэрак Я. І. Якімовіч, Г. М. Юркевіч, медыцынскіх сясцёр К. І. Піліпчык, А. А. Матвейчык і іншых. Гэтыя людзі і стануць галоўнымі героямі другой часткі кнігі.

"Будзе хлеб, будзе і песня" – так будзе называцца трэцяя частка маёй кнігі, якая прысвечана працаўнікам сельскай гаспадаркі, тым, хто працуе ў полі, кіруе тэхнікай, займаецца жывёлагадоўляй, вырошчвае хлеб.

Чацвёртую частку сваёй кнігі я прысвячаю рабочым і хачу напісаць пра тых, хто кіраваў ці працаваў на прамысловых прадпрыемствах Шацка.

У гэтай кнізе таксама хацелася б расказаць пра таленавітых землякоў, якія пішуць вершы і песні, ствараюць цуды сваімі рукамі з дрэва, лазы, тканіны, хто свой вольны час аддае сваім захапленням, прыносячы радасць людзям.

Наш народ – гэта народ-змагар, абаронца-патрыёт. Такім ён быў на працягу многіх стагоддзяў. Я раскажу аб героях-земляках, удзельніках падзей ваенных часоў.

Такім чынам, хачу, каб мая кніга стала своеасаблівым аблiччам сучасніка, чалавека шчырага і сумленнага, які жыў і працаваў у пасляваенны перыяд у вёсцы Шацк. Безумоўна, такія добрыя людзі ёсць і ў іншых мясцінах, толькі пра іх трэба напісаць іншым аўтарам.

## Горкія лёсы

Чалавек – каваль свайго жыцця і шчасця. Я згодна з тым, што шмат чаго залежыць ад самога чалавека, але не адхіляю ролю і значэнне лёсу ў жыцці кожнага з нас. Мы заўжды з цікавасцю адносімся да будучыні, гадаем, што будзе са мной праз 10 – 20 гадоў? Як складзецца лёс у нашага дзіцяці? Кім яно будзе і якім? Ці будзе шчаслівае? Мы марым аб добрым будучым, будуем планы, жывём чаканнем лепшага, але здарэнні, выпадкі, лёс могуць унесці змены ў распланаванае жыццё.

Хто думаў, што 22 чэрвеня 1941 года стане не толькі днём самай кароткай ночы, але і днём, які ў адзін момант зменіць планы, разбурыць мары, стане страшным днём у жыцці. Вайна прынесла шмат страт і гора нашаму народу. 206 маіх землякоў загінула на франтах і ў партызанах, 692 чалавекі расстраляны, павешаны, замучаны, 49 чалавек былі загнаны ў нямецкае рабства. Засталося жывымі і вярнулася на радзіму вельмі мала людзей. Яны спазналі цяжкую працу на чужыне.

Восенню, напярэдадні Дня вязняў, вучні-гуртоўцы наведалі тых, хто застаўся жывы і вярнуўся з Германіі. У цішы з хваляваннем слухалі гуртоўцы споведзі тых, хто быў у Германіі на працы ў гады вайны.

Па-рознаму трапілі на прымусовую працу гэтыя людзі, але адзінае аб'ядноўвала іх – менавіта іх, маладых, здаровых, прыгожых выбраў лёс для працы ў Нямеччыне. Хтосьці трапіў туды ў 1941 – 1942 гадах, хтосьці ў 1944-м. А вызваленне з палону прыйшло ў 1945 годзе, у красавіку і маі, а затым было доўгачаканае вяртанне дадому.

Дзе толькі ні быў і не працаваў на Германію наш зямляк?! У розных частках гэтай краіны, звездаўшы працу на ваенным заводзе і папяровай фабрыцы, на будаўніцтве і гіпсавай фабрыцы, на коксахімічным заводзе, у шахтах, на чыгунцы, іншы раз працуючы ў кайданах.

Умовы жыцця і працы былі невыносныя. Вытрымлівалі самыя здаровыя і моцныя духам. Ці магчыма было жыць і працаваць, калі на дзень давалі 200 г хлеба, 1 л баланды і бручку?

У некаторых захаваліся фотаздымкі з тых часоў. Яны такія розныя, але рэгістрацыйны нумар быў абавязковай умовай існавання кожнага з іх у Германіі.

Прайшлі гады, цяжка іншы раз успомніць, што было ўчора ці некалькі дзён таму. А вось тыя гады, дні і гадзіны запомніліся назаўсёды.

Ці можа гуманітарная дапамога, грашовая кампенсацыя аднавіць здароўе, вярнуць маладосць, паспрыяць забыць гады працы і жыцця ў Германіі? Мабыць, не, але з гадамі чалавек робіцца дабрэйшым, памяркоўным, згодным штосьці забыць і прабачыць.

***Наталля ВАЙЦЭХОВІЧ,***
***в. Шацк Пухавіцкага раёна***







Дамы багатых [illegible] пач. XX ст.

*Школьнае краязнаўства*

***Кніжачка ў сто трыццаць старонак, а я не магу прачытаць яе адразу ад пачатку і да канца, залпам, як звычайна «глытаю» бестселеры. І радкоў у кнізе нямнога, і шрыфт буйны і зручны, але... На кожнай старонцы позірк сустракаецца з сустрэчным позіркам. Не адводзячы вачэй, пазіраюць прама на цябе прыгожыя маладыя хлопцы. Адны апрануты ў цывільнае адзенне, але большасць – у воінскім абмундзіраванні. Канечне, фотаздымкі заўсёды маўклівыя, ды гэта маўчанне прыгнятаючае, таму што – назаўсёды. Ніводнага з гэтых юнакоў няма ў жывых. У мірны час яны не вярнуліся з армейскай службы. Іх маўчанне вечнае. Сёння за іх і пра іх гавораць іншыя.***

# Перапыненая песня

Успаміны пра 55 маладых землякоў, якія назаўжды засталіся 18 – 20-гадовымі, змяшчае кніга Ф. А. Палачаніна «Недаспяваная песня», якая надрукавана ў 2001 г. выдавецтвам «Беларусь». Фёдар Антонавіч працуе інспектарам аддзела адукацыі райвыканкама. Але напісаць і дамагчыся выдання такой кнігі яго падштурхнула не вышэйшая *філалагічная* адукацыя, а нясцерпны боль за незаслужанае замоўчванне гэтай тэмы, за тое, што мы ведаем і вучымся на прыкладах літаратурных герояў, іх надзвычай правільных учынкаў або лёсах, поўных ваганняў і пошукаў, але невядомых, далёкіх, а калі-небудзь наогул выдуманых. А таксама боль за тое, што частка грамадства лічыць, быццам страты ваеннаслужачых закончыліся разам з апошнімі выбухамі апошняй вайны. І толькі самыя блізкія, родныя людзі, колькі б гадоў ні мінула, не забываюць труны і ўласныя страты сыноў, братоў.

4 мая 1959 г. загінуў у выніку аўтакатастрофы радавы Савецкай Арміі Мікалай Антонавіч Палачанін, брат Фёдара Антонавіча. Як яго не хапае усёй сям'і Палачаніных! Як трывожыць душу спакой і, можа, нават забыццё аб ім іншых. Кажуць, чужы боль не баліць. Але ж колькі падобных сітуацый адзначана сучаснасцю толькі ў нашым раёне. А хіба можна дапусціць каб як рэфрэн горкаўскай «Жизни Клима Самгина» гучала пытанне: «А ці быў хлопчык? Можа, хлопчыка наогул не было?».

Хлопчыкі былі. Я выдатна памятаю Віктара Абымаху, які працаваў у раённым Доме культуры. А з Ігарам Гаўдурам мы наогул вучыліся ў адным класе. Думаю, многіх знаёмых – аднавяскоўцаў, суседзяў, калег па працы, таварышаў па вучобе – дапаможа аднавіць у памяці, узгадаць добрым словам кніга Ф.А. Палачаніна.

Вялікая праца праведзена аўтарам па зборы матэрыялаў. Яна звязана з цяжкімі ўспамінамі родных, балючым дакрананнем да душэўных ран, якое выклікае слёзы, але затым – удзячнасць за неабыякавасць да бязвінна загінулых маладых.

Дарэчы, знаёмства і абмеркаванне кнігі Ф.А. Палачаніна праходзіць у дні месячніка Эстафеты Памяці ў школах раёна. «Недаспяваная песня» не пакідае раўнадушнымі ні дарослых, ні юных.

У Тумілавацкай СШ падрыхтоўкай спецыяльнага мерапрыемства-рэквіема займалася педагог-арганізатар Марына Аркадзьеўна Мігай разам са старшакласнікамі Сашам Парцянкам, Ленай Крыпулевіч, Віталем Ралёнкам і іншымі. Няпроста даваліся словы прысутным: З. П. Апанасевіч – сястры загінулага Мікалая Карніловіча з в.Дзедзіна, Г. П. Загорскай – маці загінулага Уладзіміра Загорскага. Калісьці гэтыя хлопцы былі вучнямі Тумілавацкай СШ. Цяпер, як памяць аб гэтым, – прыпаднесеныя сваякам сувеніры, зробленыя рукамі сённяшніх школьнікаў, і нізкі паклон.

Па іншым сцэнарыі праводзілася абмеркаванне кнігі Ф. А. Палачаніна ў Замастоцкай СШ.

А ў Сітцаўскай СШ у праграме з вучнямі прымалі ўдзел дырэктар школы М.У. Калбасіч, намеснікі дырэктара А. С. Жукава і І. К. Транчэўская, настаўніца М. Б. Дзюбак. Як ні трымаўся аўтар, як ні спрабаваў валодаць сабой, але слёзы з вачэй пабеглі. Гутарка ішла пра яго брата Мікалая, які таксама вярнуўся ў в. Чаркасы ў цынкавай труне. Школьнікі чыталі вершы Фёдара Антонавіча, змешчаныя ў «Недаспяванай песні», потым падарылі яму жывыя пунцовыя гваздзікі – у знак удзячнасці і спачування.

Не дагучалі да канца песні пяцідзесяці пяці хлопцаў, якія верна выконвалі свой армейскі абавязак, недалюбілі, а можа і не пачалі яшчэ кахаць дзяўчат, недапрацавалі, недарадаваліся, не паспелі адпачыць, а можа так і не навучыліся гэта рабіць. Нездарма ж кожны ўспамін, змешчаны ў кнізе, паведамляе, што Толя, Саша, Пеця, Валодзя, Юзік – усе, пералічаныя ў кнізе, былі з дзяцінства працавітымі, спагадлівымі, вясёлымі, добрымі, клапатлівымі...

Да «Недаспяванай песні» Ф. А. Палачаніна аб гэтых хлопцах нагадвала толькі алея Памяці, якая расце ў Докшыцах ад аўтастанцыі да СШ № 2. Маладзенькія бярозкі садзілі школьнікі разам з матулямі загінулых салдат-землякоў. Гэта – агульная памяць на доўгія гады. Цяпер да яе далучылася выдатная, выпакутаваная дакументальная кніга. У ёй – скупыя радкі дакладнага трагічнага спісу-пераліку: прозвішча, імя, імя па бацьку. А яшчэ дзве даты: нараджэння і смерці юнака.

Дай Бог, каб гэты пералік не меў працягу, а песні працягвалі гучаць, не перарываючыся.

***Вераніка ПАШЭВІЧ,***
***Докшыцкі раён***
***(Паводле газеты «Мир в XXI век»)***

# Музей маленькай Друі

Амаль год таму ў Друйскай сярэдняй школе адчыніў дзверы школьны краязнаўчы музей. Ідэя яго стварэння ў настаўнікаў і вучняў вілася ўжо даўно, яшчэ з 1994 года. І вось толькі нядаўна здзейснілася даўняя мара.

Друя – адзін са старажытных населеных пунктаў Браслаўшчыны. Яе гісторыя вельмі насычаная і багатая на падзеі. Варта згадаць, што, не мінаючы Друю, па Заходняй Дзвіне праходзілі купцы, мужна баранілі сваю Радзіму абаронцы колішняга замка. Паселішча ўпрыгожвалі будынкі храмаў, добры след пакінулі на гэтай зямлі славутыя Сапегі, Злата Ліліна, Уладзімір Беняшэвіч, Ізраіль Вейцэр, Апьтэр Друянаў, Тамаш Падзява. Іх усіх аб'яднала друйская зямля. Нам засталася багатая спадчына былога магдэбургскага горада. І сёння кожны можа пабачыць велічны комплекс кляштара з Троіцкім касцёлам, узведзеныя ў 1643–1646 гг. рэшткі Петрапаўлаўскай і Дабравешчанскай цэркваў, якія, спадзяёмся, з часам будуць адноўлены, асобныя дамы друянаў і вядома ж – знакаміты Барысаў камень. Да стварэння музея спрычынілася шмат людзей. Вучні прыносілі экспанаты, настаўнікі на чале з дырэктарам В.В. Мятла вырашалі арганізацыйныя пытанні. Не засталося ўбаку зямляцтва яўрэяў – выхадцаў з Друі, якое часткова прафінансавала падрыхтоўчыя працы, Браслаўскі гістарычна-краязнаўчы музей, які прадаставіў гістарычны матэрыял і курыраваў працу. Асобна трэба згадаць пра галоўных каардынатараў, тых, хто ўдзельнічаў у распрацоўцы навуковай і мастацкай канцэпцыі будучай экспазіцыі. Гэта настаўнікі Міхаіл і Галіна Ставіцкія. Яны афармілі вітрыны і стэнды, далі магчымасць наведвальнікам па створанай дыяраме ўявіць Друю ў XVIII стагоддзі.

На адкрыцці прысутнічала кіраўніцтва мясцовага пасялковага Савета, ветэраны вайны і працы, былыя настаўнікі, пробашч каталіцкай парафіі, прадстаўнікі аддзела адукацыі, цэнтра дзіцячай творчасці, музейнага аб'яднання. На старажытнай зямлі, пад гукі скрыпак прагучалі таксама пранікнёныя вершы, напісаныя вучаніцай Марыяй Масляковай.

***(Паводле газеты “Правінцыя”)***

## Друі

*Там, дзе імклівы Полацкі Рубон*
*Гарэзу-Друйку прынімае ў абдымкі,*
*Мінаючы стагоддзяў перазвон,*
*Стаіць мая маленькая Радзіма.*
*Ужо шмат вякоў яна мяжу вартуе –*
*І чулася на розных мовах уздоўж ракі*
*Імя кароткае і ёмістае – Друя,*
*Што выгукалі па начах вартаўнікі.*
*Сышліся тут у адну ракугаворку*
*Габрэі, беларусы, латышы,*
*Гараць кастры на Ліга-Яна на ўзгорках,*
*І на Купалле па рацэ плывуць вянкі.*
*Расла, адораная магдэбургскім правам,*
*Была затоплена раз'юшанай Дзвіной,*
*Амаль што знішчана бязлітасным пажарам,*
*Шмат бачыла ў дні мінуўшчыны сівой.*
*Ты чула пераможны кліч гусар Кульнёва,*
*Ты бачыла ў Сапежыне шыкоўныя балі.*
*І рукапіснае Евангелле – святое слова –*
*Тут рукі майстра ў аксаміт перапялі.*
*Хаваючы пакутнікаў габрэйскіх,*
*Тут плакала збалелая зямля.*
*Вайна даніну жорсткую збірала,*
*Няпоўнай стала кожная сям'я.*
*Ідуць гады, мінаюцца стагоддзі,*
*У плыні мклівай страчваецца час.*
*Як многа згублена, разбурана пад сонцам...*
*Не абмінае нас гадзіна страт.*
*Вось, нібы пасівелая ўдава,*
*На стромкім беразе шырокае ракі*
*Знявечаная, сумная царква*
*Пустымі вокнамі глядзіць на берагі.*
*Сягнулі белай птушкай у блакіце*
*Касцёлу Марыянскага крыжы.*
*І кружыць бусел над старой капліцай,*
*Добраслаўляючы жывое на зямлі.*
*Не верыцца ў дрэннае, ліхое.*
*Няўмольнасць лёсу не прымаю ані дня.*
*Жыві ж у шчасці, міры і спакоі,*
*Радзіма непаўторная мая.*

***Марыя МАСЛЯКОВА***



*Падзеі, даты*

# Свята для народа

Уважлівы чытач нашай перыёдыкі не мог не заўважыць адну вельмі цікавую, больш – знамянальную рэч: многія выданні адзначылі, што 16 лютага – 86-я гадавіна аднаўлення Літоўскай дзяржавы, а некаторыя, нават дзяржаўныя, газеты вынеслі ў загаловак словы Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Літоўскай Рэспублікі ў нашай краіне: «Гэтае свята для літоўцаў асабліва дарагое».

Хораша, годна гучыць з вуснаў прадстаўніка літоўскага народа, літоўскай краіны? Вельмі. Дык скажыце, у чым тут цікавая, знамянальная рэч?

А яна – у 86-й гадавіне, гэта значыць у 1918 годзе. У той час Літва была ўжо акупаваная кайзераўскімі войскамі, у лютым яны прыйшлі і ў Мінск. Адразу пасля адыходу царскай арміі з Віленшчыны і ўваходу кайзераўскай у Вільні ўспыхнула нацыянальнае пытанне: яго перад новымі гаспадарамі вылучылі літоўскія, польскія і беларускія дзеячы. Нямецкая ўлада ўважліва да ўсяго прыглядалася; беларускія сілы (найперш браты Луцкевічы) хацелі пасаюзіцца з літоўскімі, каб аднавіць форму былога Вялікага княства Літоўскага; польскія сілы, маючы свае мэты, не назіралі за гэтым спакойна. Некалькі гадоў ішлі перамовы і спрэчкі, спрэчкі і перамовы, стасункі і варункі з нямецкімі ўладамі ў Вільні і Берліне, усё гэта пераносілася і на іншыя еўрапейскія трыбуны. Сітуацыя ўрэшце склалася так, што Берлін згадзіўся падтрымаць літоўскіх дзеячаў, заручыўшыся з імі больш чым саюзніцкімі пагадненнямі. 16 лютага 1918 года была абвешчана Літва як незалежная дзяржава; польскія сілы пачалі чакаць свайго лепшага часу; беларускія ўзялі курс таксама на сваю незалежнасць, утварылі Віленскую беларускую раду (старшыня А. Луцкевіч) і, маючы магчымасць прыбыць, як казалі, у акупаваны немцамі Мінск, настроілі Раду БНР таксама на абвяшчэнне сваёй дзяржаўнасці. І гэты акт адбыўся 25 сакавіка 1918 года прыкладна ў такіх жа ўмовах, як і ў Вільні, – гэта значыць з просьбай да Берліна падтрымаць і ўзяць пад апеку, бо іншыя сітуацыі не давалі магчымасці для нацыянальна-дзяржаўнага самасцвярджэння (БНР з Савецкай Расіяй не парывала, шукала з ёю паразумення на аснове прызнання беларускага народа).

Пасля выхаду са складу СССР Літва афіцыйна для сябе і ўсёй сусветнай супольнасці прызнала часам аднаўлення сваёй дзяржаўнасці менавіта 16 лютага 1918 года і адзначае яго як сваё вялікае дзяржаўнае і народнае свята.

***Генадзь ДОЙЛІД***

## Повязь з Сярэднявеччам

Гэтаму павінен паспрыяць фестываль сярэднявечных традыцый і культуры, які мяркуецца правесці сёлета ў чэрвені ў Магілёўскай вобласці.

Трапіць на фестываль, паўдзельнічаць у ім разам з гаспадарамі зажадалі больш за 600 сённяшніх рыцараў як з блізкіх, так і з далёкіх краін – з Расіі, Літвы, Польшчы, Чэхіі, Венгрыі і інш. Яшчэ больш, зразумела, зажадаюць пабачыць рыцарскія турніры, штурмы крэпасцей, паслухаць тагачасную музыку, паспрабаваць старарэцэптных страў тысячы гледачоў з розных краін.





***Заўжды з асаблівай нецярплівасцю чакаю лістоў з Калінінграда, з “Музея Сусветнага акіяна”. Ведаю: нешта зноў дагэтуль невядомае раскажуць музейшчыкі пра Арцемія Васільевіча Іванова. Пра маладзечанца, пра вядомага свету вучонага. Легенда савецкай і, мо, нават сусветнай навукі!.. Нястомны даследчык жывёльнага свету акіяна. Сапраўдны Жак Іў Кусто. А нарадзіўся Іваноў у Маладзечне.***

# Маладзечанскі Жак Іў Кусто

Вядома, што бацька працаваў доктарам. Закончыў Арцемій біялагічнае аддзяленне Ленінградскага універсітэта. Студэнцкую практыку праходзіў на Мурманскай біялагічнай станцыі. Ужо тады вызначыўся ў цікаўнасці да беспазванковых, якія жывуць на марскім ці акіянскім дне. Працаваў на шхуне “Мікалай Кніповіч”. У 1930 годзе наш зямляк едзе пад Уладзівасток. Займаецца на Ціхаакіянскай прамысловай станцыі. Удзельнічае ў экспедыцыях у Ахоцкае, Берынгава і Чукоцкае моры.

Пасля Арцемій Іваноў вяртаецца на работу ў Заалагічны інстытут Акадэміі навук СССР. Свае папярэднія росшукі, матэрыялы экспедыцыі абагульняе ў “Атласе анатоміі прамысловых беспазванковых далёкаўсходніх мораў” (1949). І зараз гэтым унікальным даведнікам карыстаюцца як вучоныя-біёлагі, так і прамысловыя здабытчыкі акіянічных багаццяў.

Да меркаванняў, навуковых высноў маладога вучонага пачынаюць прыслухоўвацца. У галіне эвалюцыйнай марфалогіі, у веданні эмбрыялогіі і эвалюцыі беспазванковых дасведчанасць Арцемія Іванова набывае ўсё большы аўтарытэт. З асаблівай ахвотай наш зямляк удзельнічае ў экспедыцыях акіянаграфічнага судна “Віцязь” (цяпер яно знайшло вечны прытулак на прычале каля “Музея Сусветнага акіяна” ў Калінінградзе). Пяць разоў хадзіў у паходы з “Віцязем” Іваноў. І штораз навуковы багаж вучонага павялічваўся. Светапогляд, мысленне багацелі, станавіліся шматкрат шырэйшымі. Вядома, спрыяў гэтаму і папярэдні вопыт, спрыяла здольнасць ісці наперад, не спыняцца. Але – і “Віцязь”, і ўмовы працы на навукова-даследчым судне таксама. Невыпадкова ж высокую ацэнку магчымасцям “Віцязя” выдалі ганаровыя наведвальнікі карабля – Жак Іў Кусто і Тур Хеердал.

Арцемію Іванову належыць адкрыццё жывёл-паганафораў. Да Іванова ніхто ў навуцы не ведаў пра іх існаванне. Хто ж гэта такія – загадкавыя паганафоры? Асноўныя наведвальнікі глыбакаводных гідратэрмаў. У трубках з хіціну і бялку. Наверх высунуты толькі жабры, якія нагадваюць бараду. Адсюль і назвы: “Паганафоры – тыя, хто нясуць бараду...”

У 1960 годзе была выдадзена манаграфія А. Іванова “Паганафоры”. У 1961 годзе Арцемія Васільевіча ўшанавалі званнем лаўрэата Ленінскай прэміі. Усяго 19 радкоў адведзена вучонаму-земляку ў беларускай энцыклапедыі. На тое і энцыклапедыя, каб быць лаканічнай. Але так хочацца, каб як мага шырэй ведалі ў Беларусі пра навуковы, жыццёвы лёс суродзіча... Яшчэ ў 1959 годзе Іванова прынялі ў правадзейныя члены Германскай акадэміі прыродазнаўчых навук. У 1981 годзе Арцемія Васільевіча абралі акадэмікам Акадэміі навук СССР. Здабыткі Іванова адзначаны Залатым медалём імя І. І. Мечнікава.

Іваноў – унікальная асоба даследчыка ў прыродазнаўстве ўвогуле. І чаму, прыкладам, не ўсталяваць беларускай акадэмічнай навуцы прэмію альбо ганаровы медаль у знак памяці вучонага земляка? Ці, мо, прэмія імя Іванова будзе ўсталявана ў Маладзечне – для заахвочвання юных навукоўцаў?

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**




*Пачатак 1960-х. Памятны знак на цэнтральным востраве Брэсцкай цытадэлі ў памяць пра абаронцаў*

## Экалагічны семінар у Залужжы

З літаратуры мы ведаем, што са старажытнасці, яшчэ ў Вавілоне, вельмі шанавалі альяс (алоэ). Здаўна прымаюць яго і ў беларускіх хатах – сокам залечваюць раны, а з мёдам лечаць прастуду. Мабыць, за тое, што ў пакаёвых умовах ён цвіце рэдка, яго яшчэ называюць сталетнікам.

У Залужскай СШ Стаўбцоўскага раёна ёсць стэнд “Зімовы сад”, дык там пашанотнае месца займае і альяс – не толькі сам па сабе, але і з картай яго паходжання.

Нядаўна ў школе правялі адмысловы экалагічны семінар, дзе прадстаўнікі з усіх школ раёна абмяркоўвалі турботы школьнага экалагічнага навучання і выхавання.

Удзельнікі семінара пазнаёміліся з экалагічнай галерэяй “Мой родны кут, як ты мне мілы”, са стэндамі “Чырвоная кніга Беларусі” і “Лес – наш сябар”, з прыкладам-узорам экалагічнага класа, абмеркавалі пабачанае і пачутае, падзяліліся сваімі думкамі наконт таго, як далучыць дзяцей да ведаў аб прыродзе і зберажэнні яе, што будзе спрыяць фарміраванню гарманічнай асобы, сапраўднага гаспадара роднай зямлі.

**Нашы традыцыі**

# Уяўленні пра гаспадара ў светапоглядзе беларусаў



***Гаспадар.*** У традыцыйнай сям’і гаспадар быў галавой, ён кіраваў усімі мужчынскімі працамі. Гаспадыня была маці, кіраўніцай усіх жаночых прац. У сямейных справах думка бацькі была вызначальнай. Зямля складала родавую ўласнасць і знаходзілася ў валоданні ўсёй сям’і, але звычайна ёю распараджаўся гаспадар.

Народныя ўяўленні аб ролі гаспадара найбольш выразна бачныя ў прыказках, прымаўках, а таксама ў валачобных песнях. У валачобных песнях апісаны ідэальны гаспадар, яго сям’я, дзеці, двор, гаспадарка, веданне гаспадаром звычаяў, яго судовыя функцыі (“суды судзіць”). Валачобныя песні падзялялі працоўны клопат гаспадара і гаспадыні на “надворны”, аб ніве, – яго аддавалі мужчыне, і “хатні”, пры доме, – звычайна пакідаючы яго жанчыне, гаспадыні. Тэксты валачобных песень даюць наступныя звесткі пра гаспадара і яго долю. Гаспадар заўсёды жыве клопатамі пра гаспадарку і сям’ю, таму яму найбольш спяваецца песень, дзе працоўныя клопаты, прыбытак, дабрабыт сям’і, сямейнае ўладкаванне сыноў і дачок стаяць на першым плане. Узвелічэнню гаспадара як паўнаўладнага і клапатлівага кіраўніка сямейнага калектыву садзейнічае апісанне ў песнях яго багатага княжага ўбору (шапка бабровая, шуба з куніцы, казловыя боты, шаўковы пояс і г. д.), а таксама двара і ўсіх прадметаў, што яго акружаюць (у дварку, як у вянку: пабудовы маляваныя, пазлачаныя; сталы цісовыя; кубкі залатыя з віном, півам і салодкім мёдам). Двор гаспадара — гэта ідэал прыгажосці і функцыянальнасці, даступны ў сапраўднасці толькі багатым панам: двор стаіць “на пагурачку, на падмурачку”, каля двара Дунай цячэ, сад над вадою і інш. Вось як падаецца прыход валачобнікаў у прыгожы багаты двор:

*...Ішлі от яны да пыталіся,*
***Багатага пана** да пыталіся,*
*За чый-та двор зачапіліся.*
*А чый жа **двор між азёр** стаіць,*
*Між азёр стаіць **на пагурачку**,*
*На пагурачку, на падмурачку?*
***Мікалайкаў двор** між азёр стаіць,*
*Між азёр стаіць на пагурачку,*
*На пагурачку, на падмурачку.*
***Шулы точаныя**, пазалочаныя,*
***Падваротнічка — рыб’я костачка**,*
*А на тым дварэ агонь гарыць,*
*А на тым агні кацёл стаіць,*
*А ў тым катле піва варыцца,*
*Кругом катла паня ходзіць,*
*Залаты ключы і ў руках носіць,*
*Свайго пана пабуджаець...*

У песнях, адрасаваных гаспадару, найбольш момантаў, дзе гаворыцца пра ўраджайнасць палёў, прадуктыўнасць статку і інш. Паэтычная ідэалізацыя маёмаснага стану гаспадара ўвасабляе сялянскую мару аб заможным вольным жыцці, дзе праца святочна-прыгожая і лёгкая, а плён яе надзвычай багаты. Старажытнае ўяўленне пра добрую долю чалавека ў валачобных песнях канкрэтызуецца ў трох жыццёва важных рэчах: добрым ураджаі (жыта ядраное), адборным статку (коні вараныя), шчаслівай сям’і (дзеці дробныя). У іншых тэкстах таксама вельмі абагульнена малюецца багацце гаспадара: у яго тры свіронкі, у адным — жыта і пшаніца, у другім — дарагія сукны, у трэцім —золата і срэбра. Паказнікам багацця з’яўляецца вялікая колькасць мёду і воску, гэтых старажытных тавараў абмену.

Гаспадару валачобнікі прарочаць добрую долю:

*Першая **доля — жыта** ядраное,*
*Другая **доля — коні** вараныя,*
*Трэцяя **доля — дзеці** дробныя.*

Беларускія прыказкі і прымаўкі гэтак выяўляюць патрэбу ў гаспадары, адзінства гаспадара з гаспадаркай, гумном, дваром, аднаасобны характар гаспадарання:

*Як чорт у хату ўселіцца, дык гаспадар з жонкаю дзеліцца.*
*Гдзе двое гаспадаруюць, там парадку мала.*
*Дзе гаспадароў многа, там толку мала.*
*Ні госць, ні гаспадар.*
*Двор (хата) без гаспадара (гаспадыні) плача:*
*Двор без хазяіна плачаць.*
*Без хазяіна хата скучае.*
*Без хазяіна і дом сірата.*
*Без гаспадара гумно плача, а без гаспадыні — хата.*

У валачобных песнях пры зычэнні долі сынам, вылучаюцца наступныя гаспадары і заняткі гаспадара:

*Да вывела пава сабе тры сыночкі.*
*Першы й сыночак — да й **пахарнічак**,*
*А другі сынок — да й **рыбалоўнічак**,*
*А трэці сынок — да й **водчычак**.*

***— Дай жа мне, божа, да тры сыночкі,***
*Зялён явар, зялёны!*
*Да тры сыночкі, усе работнічкі.*
***Першы сыночак пахарнік будзе,***
***Другі сыночак водчычак будзе,***
***Трэці сыночак крэўчычак будзе.***
*Пахар гукне ў чыстаму полі,*
*Палавыя валы паганяючы,*
*Госпада бога ўспамінаючы:*
*— Дай жа мне, божа, хораша спахаці,*
*Гэтаму рошчу хораша расціці.*
*Водчычак гукне ў зялёнай дуброве,*
*Цясовыя вуллі адчыняючы,*
*Госпада бога ўспамінаючы:*
*— Дай жа мне, божа, матку пчаляністую,*
*Пчаляністую і раістую,*
*І раістую, і мядзістую.*
*Крэўчык гукне за скам’ёю,*
*Шаўковыя сукні рассцілаючы,*
*Госпада бога ўспамінаючы:*
*— Дай жа мне, божа, хораша пашыці,*
*А хазяіну весела знасіці.*

І калі бортнікам, рыбаловам можа стаць у прынцыпе шмат хто, то такімі спецыялістамі, як музыка, скамарох (музыка, скрыпач, гусляр), лірнік, чараўнік, мог стаць не кожны, і яны ўжо часта вылучаюцца асобна, ды і жыць могуць паза адной грамадой. Прытым часта разумеецца, што скамарох таксама чараўнік.

Народныя прыказкі ставяць музыку ў адзін шэраг з паляўнічым і рыбаком — усе яны “не гаспадары”:

*Музыка ды дудар — невялікі гаспадар.*
*З музыкі да з млінара не будзе гаспадара.*
*З музыкі да з муляра нігды няма гаспадара.*
*Дудар — не гаспадар, стралец — не жылец, рыбак — і той па вушы абгніець.*
*Калі араць, дык у дуду не іграць.*
*З музыкі хлеб невялікі.*
*У стральца і музыкі хлеб невялікі.*
*Музыкант іграець — жонка хлеба не маець.*
*Дудар дудару дарма іграець.*

Канцэпцыя гаспадара пранізвае ўсё жыццё беларусаў. Ва ўяўленнях беларусаў усё павінна мець гаспадара. Дагэтуль беларусы пра занядбанае поле, сядзібу, ды і сучаснае прадпрыемства кажуць “няма гаспадара”. Традыцыйныя рэлігійныя ўяўленні беларусаў набылі форму культу духаў-гаспадароў пэўных як рэальных, так і ўяўных месцаў з усім, што ў гэтых месцах ёсць (жывёл, раслін і г. д.): хаты, поля, леса, пекла, рая, адпаведна гэта дамавыя гаспадары, палявыя гаспадары, лесавыя гаспадары, люцыпар, чэрці, бог, святыя. Культы духаў-гаспадароў вядомы ўжо ў народаў, якія займаюцца толькі паляваннем і рыбалоўствам, напрыклад у такіх народаў Паўночнай Азіі, як ітэльменаў, гілякоў, юкагіраў. Але зразумела, што сучасныя формы культ гаспадара набыў у беларусаў з таго часу, як яны пачалі займацца земляробствам.

***Гаспадар у традыцыйным светапоглядзе мае высокі статус. Ён – цэнтр сям’і і гаспадаркі, адыгрывае заўважную ролю ў жыцці грамады. Час пачатку фарміравання культу гаспадара можна аднесці да таго даўняга часу, калі беларусы займаліся яшчэ толькі паляўніцтвам і рыбалоўствам.***

**Змітро КАНАПЛЯНІКАЎ**





*Валянціна Коўтун нарадзілася пасля вайны ў в. Дземяхі Рэчыцкага раёна. Змалку зведала розныя жыццёвыя і творчыя шляхі-дарогі. Спачатку з бацькамі – настаўнікамі ў Пінскім раёне, пасля – у Львове, куды падалася вучыцца на філалагічны факультэт універсітэта. Львоўскі перыяд (тры студэнцкія курсы) – асобны, нават вызначальны перыяд у яе біяграфіі: першы надрукаваны ў 1966 годзе верш у перакладзе на ўкраінскую мову і, магчыма, подступы да асэнсавання лёсу вялікай папярэдніцы – "львявянкі" Цёткі.*

*Пасля Львова – Мінск, філфак БДУ, настаўніцкая праца, "хлеб" у рэдакцыях "Сельскай газеты", выдавецтве "Юнацтва", у часопісе "Полымя" (двойчы). Кандыдат філалагічных навук, даследчык паэтычнай структуры беларускай пазаабрадавай песні пра каханне. Аўтар дзесятка кніг паэзіі (вершы і паэмы), рамана "Крыж міласэрнасці" (пра Цётку), шматлікіх апавяданняў, навуковых артыкулаў, перакладаў, сцэнарыя фільма пра Цётку. Усё разам узятае вывела яе ў лік буйных культурных, навуковых дзеячаў нашага часу.*

*Валянціна Коўтун – актыўны грамадскі дзеяч, адна з ініцыятараў жаночага руху на Беларусі. Яна ўзначальвае Міжнародны фонд Ефрасінні Полацкай. А гэта – шматлікія сустрэчы ў працоўных, навуковых, творчых, педагагічных калектывах, канферэнцыі, сходы, публікацыі і выданні на тэмы "Жаночае аблічча Беларусі", "Жанчына. Радзіма. Будучыня", дабрачынная дзейнасць і г.д.*

# Жаночае аблічча Беларусі

## ЧАСТКА I.
## АСОБА – РАДЗІМА – ЖЫЦЦЁ

На самых першых старонках нашай гісторыі цывілізаванае грамадства можа прачытаць гучныя жаночыя імёны. Гэта імёны-сімвалы, якія з'яўляюцца нацыянальным набыткам незалежнай Беларусі. Гаворка ідзе пра трансчасавы, сапраўды унікальны жаночы феномен усёй беларускай гісторыі. Больш таго, многія беларускія сучасныя жаночыя арганізацыі часта развіваюць у сваёй дзейнасці ідэі ТОЙ БЕЛАРУСІ, якая ўжо з X–XII стагоддзяў усё больш выяўна сведчыць свету свае вытанчанае, як на фрэсках Спаса-Ефрасіннеўскай царквы, ЖАНОЧАЕ АБЛІЧЧА.

Як ні ў адной з краін Захаду, беларуская жаночая рэальнасць мінулага была настолькі выяўнай і пазначанай меткамі паскоранага развіцця цывілізацыі, што ўжо сама першапрысутнасць у гісторыі ўсходніх славян спачатку свабодалюбівай Рагнеды, а потым – вялікай полацкай асветніцы Ефрасінні не толькі дала магутны імпульс развіццю цэлых эпох кніжнасці і асветніцтва, але таксама заклала фундаментальныя падмуркі стварэння першых інстытутаў абароны правоў чалавека, палітычнай дыпламатыі, першых культурна-асветных цэнтраў, дзе ўласна і пачался фарміраванне асноў Незалежнасці, яе філасофіі і этыкі.

Такім чынам, аўтарытэт жаночай гісторыі Беларусі матэрыялізуецца ў развіцці інстытутаў цывілізаванай дзяржавы, уплывае на пошукі шляхоў пабудовы ў адной з краін Цэнтральнай Еўропы адкрытага грамадства.

Унікальны арэол Ефрасінні Полацкай (само імя і яе знакаміты крыж) сёння пастаянна ўключаецца ў назвы і сімволіку жаночых і іншых грамадскіх і дзяржаўных арганізацый (Асацыяцыя беларусаў свету), дэмакратычных рухаў (напрыклад, хрысціянска-дэмакратычны), партый, вышэйшых навучальных устаноў (Беларускі універсітэт культуры, першы жаночы інстытут "ЭНВІЛА"). З улікам значнасці беларускіх гістарычных каштоўнасцяў сёння ў рэспубліцы праходзяць міжнародныя з'езды, кангрэсы, навуковыя канферэнцыі і конкурсы. Да прыкладу, на званне "ЖАНЧЫНА ГОДА" – з уручэннем пераможцам медаля Святой Ефрасінні Полацкай Вялікай. Таму не дзіўна, што многія лідэры жаночых арганізацый арыентуюцца менавіта на развіццё перспектыўных гуманістычных, выпрацаваных гісторыяй ідэй. Адна з іх тым жа фондам Святой Ефрасінні Полацкай выказана наступным чынам: "Нам, беларускім жанчынам, неабходна зрабіць усё магчымае для кансалідацыі дэмакратычных сіл, для яднання народа, перасякаючы нацыянальны, палітычны і рэлігійны бар'еры".



*Ефрасіння ў сваім Полацку*

Адным словам, гісторыя адукаванай Беларусі, што сёння ўступае на новы шлях развіцця, мае сапраўды жаночае аблічча, у якім вельмі многія пазнаюць лік Святой Ефрасінні Полацкай. Таму заканамерным будзе даць аб ёй хоць бы кароткую гістарычную даведку.

... Ад перыяду асаблівага ўзлёту магутнай раннефеадальнай Полацкай дзяржавы, прарадзімы беларусаў, нас аддзяляе прастора-часавы пояс васьмі вякоў. Менавіта з XII стагоддзя, "яко луна солнечная", пранізвае гістарычныя пласты святло імені, без якога немагчыма ўявіць не толькі панараму культурнага і духоўнага росквіту ўсходніх славян, але і ўсю гісторыю развіцця і распаўсюджвання ідэй еўрапейскай цывілізацыі. Загадка і разгадка беларускага гістарычнага феномена. Усё гэта – Ефрасіння Полацкая (свецкае імя Прадслава, 1112–23.V.1173) – дачка полацкага князя Георгія Усяслававіча, унучка знакамітага Усяслава Чарадзея. Адна з самых адукаваных жанчын свайго часу. Святая патронка Беларусі.

Рыхтуючыся ўзысці на княжацкі трон, Прадслава знаёміцца з самымі знакамітымі ў сваім часе літаратурнымі творамі і філасофскімі працамі, якія па-сваяцку маглі перадавацца ў Полацк з бібліятэк візантыйскага імператарскага дома. Пераступіўшы парог, за якім засталіся спакуслівасць дзяржаўнай улады і свет матэрыяльных даброт, юная палачанка прымае манаства пад іменем Ефрасінні. Будучая вялікая пачынальніца ўсходнеславянскай кніжнасці і полацкага рэнесансу пачала з простага перапісвання старажытных манускрыптаў. Затым – заснаванне манастыроў, храмаў і пры іх – першых скрыпторыяў, адкуль кнігі перадаваліся ў новыя, ёю ж адкрытыя школы, дзе права на навуку давалася ўсім, без уліку саслоўнай няроўнасці і полу. Прынцыпы роўнасці і ўзаемапавагі, прагрэсіўныя ідэі шырокага пранікнення адукацыі ў народныя масы падмацоўваліся нават адметнай тэорыяй педагогікі. У школьныя праграмы ўводзіліся такія незвычайныя для таго часу прадметы, як прыродазнаўства і рыторыка.



Да таго ж згадаем, што менавіта з Полацкай зямлі скіраваўся ў далёкі шлях і з'явіўся на еўрапейскай арэне вялікі асветнік Францыск Скарына, які здзейсніў пад уплывам святой зямлячкі яшчэ адзін подзвіг беларускай гісторыі – подзвіг першадрукара. У адным шэрагу з ім бачацца таксама такія духоўныя пастыры грамадства, дзяржаўныя дзеячы і пісьменнікі, як Сімяон Полацкі, Сымон Будны, Кірыла Тураўскі... Асэнсаванне дзейнасці многіх слынных беларусаў немагчыма без уліку асобы Ефрасінні Полацкай – іх геніяльнай натхняльніцы. Але калі астанкі вялікай жанчыны пасля вяртання з Іерусаліма, куды палачанка зрабіла паломніцтва, прыцягваюць сёння тысячы вернікаў да полацкіх храмаў, то знакаміты крыж схаваны ад нашых вачэй, хаця менавіта гэты крыж – нацыянальная беларуская святыня, шэдэўр старажытнаеўрапейскага мастацтва. Золата і каштоўныя камяні крыжа сімвалізавалі ззяючы пачатак пераўтворанага свету. Шасціканцовая форма таксама мае сваю перадгісторыю. Як вядома, пакаранне на крыжы было забаронена яшчэ пры Канстанціне Вялікім (IV ст.), і форма крыжоў, на якіх некалі каралі (распіналі), была забыта. Шасціканцовая форма – самы дасканалы сімвал першапачатковага, першабытнага сусвету. Шэсць промняў – не проста шэсць дзён стварэння свету, але адлюстраванне працэсаў вяртання свету да свайго духоўнага стрыжня. Асаблівую каштоўнасць рэліквіі надаюць тыя часцінкі святых мошчаў, якія былі закладзены ў стаўратэку.

Пярэдні бок: кроў Хрыстова – верхняе перакрыжаванне, дрэва жыватворнае – ніжняе; адваротны бок: частка Гроба Багародзіцы і частка Гроба Гасподня, а таксама кроў святога Дзмітрыя, часцінкі мошчаў св. Стэфана і Панцеляймона. Мяркуюць, што ўсе гэтыя рэліквіі майстру Лазару Богшу даставіла спецыяльна высланая Ефрасінняй у Візантыю экспедыцыя да імператара Комнена, жонка якого была яе цёткаю, і патрыярха Лукі.

Новая гісторыя крыжа звязана з перыядам 30-х гадоў XX стагоддзя, калі ў выніку наступлення ваяўнічага атэізму савецкай улады знішчэнню падлягалі святыні народа і шэдэўры нацыянальнай культуры. Гэтая герастратаўская эпапея не мінула і Беларусь. Што да крыжа, то пасля глыбокага "пахавання" гэтага "прадмета рэлігійнага культу" ён спачатку трапіў у асобую кладоўку магілёўскага музея атэізму, а затым у 1941 годзе, калі пачалася вайна, бясследна знік. Сёння, у складанейшы перыяд барацьбы за дзейсную незалежнасць дзяржавы, крыж Ефрасінні Полацкай з'яўляецца агульнанацыянальным сімвалам вольнай Беларусі. Таму сумна спасцігаць, што ён усё ж – не вяртаецца!

Уадрозненне ад гэтага, гуманістычныя ідэі самой Ефрасінні Полацкай, што магутна паўплывалі на ўсё развіццё асветніцкага руху, не толькі вяртаюцца, але і па-новаму рэалізуюцца ў дзейнасці прагрэсіўных, у тым ліку жаночых, арганізацый.

У гэтай сувязі разуменне гістарызму беларускай жаночай думкі тоесна з канцэпцыяй роўных магчымасцяў, што была выпрацавана ў першых, найбольш вядомых гістарычных дакументах XVI стагоддзя. Маецца на ўвазе знакамітая эпоха Вялікага княства Літоўскага, якая заслугоўвае асобнага разгляду. Бо калі з перыядам узлёту Полацкай дзяржавы звязана ранняя гістарычная канструкцыя мадэлі асветніцтва народа і чалавечай асобы як такой, то першае фармуляванне жаночых правоў нарадзілася ў перыяд Вялікага княства Літоўскага.

Больш таго, у перыяд развіцця дэмакратычных прававых асноў ВКЛ, асабліва падчас стварэння знакамітага Статута 1588 года, з'явіўся новы жаночы тып. "Літвінкі" вызначаліся найперш свабодалюбівым разняволеным норавам і самапавагаю. Адначасова жанчына Вялікага княства Літоўскага была даволі стрыманай, сціплай, гаспадарлівай і схільнай да дабрачыннасці (А.Весялоўская, К. Лаза, К. Сапега). Напрыклад, А. Весялоўская перадала ў гарадскую казну грошы на нармалізацыю жыцця пасля чумы і голаду 1642–1646 гадоў; іншыя магнаткі бралі на выхаванне дзяўчынак з бедных правінцыйных сем'яў, апекаваліся іх далейшым лёсам; асобныя вылучаліся экзальтаванасцю, што выклікала ў суайчыннікаў адначасова асуджэнне, зайздрасць і захапленне. Менавіта тагачасным норавам і жаночай псіхалогіі прысвяціла сваё рэалістычнае эсэ "Якая я ёсць" Ізабэла Чартарыйская. Жанчыны ВКЛ, якія актыўна далучаліся да рэнесанснай культуры, немалую ўвагу ўдзялялі і новай для таго часу практыцы калекцыянавання мастацкіх узораў, чым займалася, да прыкладу, Алена Радзівіл. Прадстаўніцы гэтага слыннага роду ўвогуле вылучаліся характвам, высокім інтэлектам і шматлікімі талентамі. Такім чынам, высокая культура, адукаванасць, пачуццё ўласнай годнасці сталі адметнымі рысамі жанчын перыяду, які нашчадкі назвалі "залатым векам" Беларусі. Менавіта інтэлектам вылзялялася яшчэ адна знакамітая жанчына сярэднявечча – Ганна Яблонская (з роду Сапегаў), чые заняткі ў галіне палітыкі, эканомікі, прыродазнаўчых навук, заалогіі і мінералогіі здзіўлялі нават вучоных. Яе фальварак у Семяцічах наведалі імператар Аўстрыі Іосіф, імператар Павел I і іншыя знакамітасці. Эмансіпацыя шляхцянак выклікала незадаволенасць старой шляхты. Аднак гэта не паслабіла памкненняў жанчын да ўдасканалення пачуцця ўласнай годнасці.

**Валянціна КОЎТУН**

**(Працяг будзе.)**





*Постаці*

# Карусь Каганец

***Такі псеўданім узяў сабе таленавіты беларускі паэт, пісьменнік, мастак, скульптар – Казімір Рафал Кастравіцкі. Акрамя таго, меў і іншы – Будзімір. І той, і другі добра перадавалі змест і напрамак творчай дзейнасці пісьменніка-мастака.***

***Як у беларускай, так і ў рускай мовах "каганец" азначае "свяцільнік", а "будзімір" – будзіць людзей свету. Вядома, тут гэтыя словы маюць глыбокі сімвалічны сэнс.***

Бацька Каруся Каганца Карл Кастравіцкі паходзіў з даўняга баярскага роду і быў раднёю Міхаіла Апалінарыя Кастравіцкага, дзеда вядомага французскага паэта Гіёма Апалінэра, які ў сярэдзіне XIX стагоддзя валодаў фальваркам Навасёлкі пад Койданавам, да якога было прыпісана толькі 6 сялянскіх двароў. У 1863–1864 гадах актыўна ўдзельнічаў у паўстанні пад вадзіцельствам Кастуся Каліноўскага на Беларусі.

За гэта царскія ўлады саслалі яго ў Сібір. Там знайшоў сабе службу. Зямлю і маёмасць улады канфіскавалі на карысць дзяржавы. Таму ў хуткім часе да яго ў Сібір прыехала і жонка.

Тут, у сібірскім Табольску, 10 лютага 1868 года і нарадзіўся будучы паэт і пісьменнік Казімір Рафал Кастравіцкі – Карусь Каганец, Будзімір. Лёс будучага паэта не песціў. Яшчэ ў Табольску аднойчы ён валіўся з высокага акна на вуліцу і моцна пакалечыўся. Пазней там жа на яго ўпалі высокія вароты, і ў Казіміра вырас горб. Таму праз усё сваё жыццё карыстаўся вопраткай, якая крыху хавала гэты фізічны недахоп.

Калі Карусю споўнілася 6 гадоў, сям'я Кастравіцкіх вяртаецца са ссылкі ў родныя мясціны на Беларусь і пасяляецца ў вёсцы Засулле, непадалёк ад Стоўбцаў.

Вучыўся спачатку Карусь дома, пасля ў Мінскім гарадскім вучылішчы. Мастацкім і скульптурным майстэрствам авалодваў у Маскве і Пецярбургу. Але вучобу не закончыў, бо не было сродкаў. Працаваў настаўнікам малявання, лесніком.

Рос і выхоўваўся ў сям'і людзей свядомых, маладым уключыўся ў актыўны беларускі нацыянальна-вызваленчы рух. Стаў адным з арганізатараў Беларускай сацыялістычнай Грамады, якая ў той час называлася Беларуская Рэвалюцыйная Грамада. За гэта і за рэвалюцыйную агітацыю быў неаднаразова зняволены ў турму.

У турме аўтар "Моднага шляхцюка" маляваў карціны, рэзаў з дрэва скульптурныя фігуры, пісаў драматычныя творы. З 26 ліпеня 1910 года сядзеў разам з будучым класікам беларускай літаратуры Якубам Коласам. Колас шмат пісаў, а Каганец рабіў да яго твораў ілюстрацыі, зрабіў 12 малюнкаў. На жаль, малюнкі гэтыя не захаваліся.

Паэзіяй захапіўся рана, першы свой твор надрукаваў у 1893 годзе.

Тэматычна літаратурныя творы Каруся Каганца, думаю, можна ўмоўна падзяліць на тры накірункі: пра народны побыт і сялянскую працу, нацыянальныя праблемы беларусаў і на гістарычную тэматыку.

Найбольш адпаведнымі першаму накірунку былі творы "Наша ніўка", "На сяле вячоркі", "Жняя". Усе яны не захаваліся і ў друк не трапілі. Нацыянальныя праблемы беларусаў паэт адлюстроўвае ў вершы "Плач беларуса" і ў драме "У іншым шчасці няшчасце схавана". У творах гістарычнай накіраванасці трэба адзначыць такія творы, як "У тры шляхі ідуць ляхі", "Сцяты камень". У гэтым накірунку сваёй творчасці Карусь Каганец захапляўся мінулым Беларусі, гісторыяй Вялікага княства Літоўскага, што не вельмі падабалася царскім уладам.

Літаратурная творчасць Каганца вельмі шматгранная. Ён вызначаўся як майстар вадэвіля. У "Модным шляхцюку", пастаўленым у 1910 годзе ў Вільні і Полацку, пісьменнік высмейў пагардлівыя адносіны паноў да народа, мастацкім словам паказаў хараство душы простых людзей. Шмат у чым "Модны шляхцюк" блізкі да купалаўскай "Паўлінкі". Адзін з герояў камедыі Пранцішак нагадвае пана Быкоўскага: тыя ж ганарлівасць, самахвальства, абмежаванасць.

Можна меркаваць, што твор гэты быў напісаны на матэрыяле, сабраным падчас работы аўтара ў Лідзе. Ліда тады была звычайным невялікім правінцыяльным гарадком з перавагай польскай і польскамоўнай шляхты. Таму знайсці тут такія персанажы яму было нават вельмі проста.

Большасць драматычных твораў Карусь Каганец пісаў у турме, таму многія з іх так і засталіся незакончанымі.

Беларуская мова яго твораў не зусім літаратурная, але сакавітая, народная, трапная. Шмат выразаў з яе сталі крылатымі, пераўтварыліся ў пагаворкі: "Што кажух, то не вата, што капуста, то не гарбата", "Як вуха абарвецца, дык і збан паб'ецца" і іншыя.

Карусь Каганец быў таленавіты жывапісец, графік, скульптар. Яшчэ ў Маскоўскім мастацкім вучылішчы вылепіў бюст Івана Грознага, і скульптура была вельмі высока ацэнена яго настаўнікамі. Вядомы яго творы як мастака – "Маці", "На ростанях", "За сахою", "Буслы". Займаўся афармленнем і аздабленнем кніг. Ён аформіў вокладку "Другога чытання для дзяцей беларусаў" Якуба Коласа.

Нягледзячы на забарону беларускай мовы расійскім імператарам Мікалаем I, склаў "Беларускі лемантар", які выдаў ананімна.

Апрача літаратурнай працы, аўтар "Моднага шляхцюка" вёў актыўную грамадскую і асветніцкую дзейнасць. Займаўся публіцыстыкай. У 1904–1905 гадах, у час работы ў Лідзе, рабіў захады наладзіць выданне беларускай газеты "Палессе". Але атрымаць дазвол на гэта царскіх улад так і не ўдалося. Таму газета на свет не з'явілася.

***Гэты таленавіты і шматбаковы мастак пражыў, на жаль, мала. Яго жыццё абарвалася ў самым росквіце творчасці – на 50-м годзе ад нараджэння, у 1918 годзе.***

***Вельмі шкада, што творы Каруся Каганца незаслужана мала вядомы шырокаму колу чытачоў сёння. У лідскіх бібліятэках, напрыклад, іх менш за 10 экзэмпляраў.***

*Анатоль КУЛЕШ, г. Ліда*

# Яны адступалі да Парыжа...

*(Заканчэнне. Пачатак у № 8.)*

Ні Барадзінская бітва (26 жніўня), ні іншыя падзеі на расійска-французскім фронце не ўплывалі на набор рэкрутаў. Ён праходзіў арганізавана і быў скончаны па плане – 10 верасня. Найбольш хутка з гэтай задачай справілася Гродзеншчына. Абшарнікі выставілі так шмат рэкрутаў, што з іх пачалося фарміраванне даткавага палка. З другой паловы верасня беларускія пяхотныя палкі былі гатовы выступіць супраць царскіх войск, кавалерыя закончыла фарміраванне ў канцы кастрычніка, напярэдадні адступлення французаў.

| № палкоў | Штаб-кватэра | Імя і прозвішча шэфа | Якія паветы далі рэкрутаў у полк |
|---|---|---|---|
| 18 пяхотны | Вільня | Граф Аляксандр Хадкевіч | Віленскі, Завілейскі, Вількамірскі, Браслаўскі, Ашмянскі, Вілейскі |
| 19 пяхотны | Расіёны | Граф Канстанцін Тызенгаўз | Троцкі, Ковенскі, Упіцкі, Расіёнскі, Шавельскі, Вількамірскі |
| 20 пяхотны | Гародня | Барон Адам Біспінг | Гарадзенскі, Лідскі, Навагрудскі, Слонімскі, Ваўкавыскі, Пружанскі, Пінскі |
| 21 пяхотны | Беласток | Антон Гелгут | Кобрынскі, Берасцейскі, Беластоцкі, Сакольскі, Бельскі, Драгічынскі |
| 22 пяхотны | Менск | Граф Станіслаў Чапскі | Менскі, Дзісненскі, Барысаўскі, Ігуменскі, Бабруйскі, Мазырскі, Рэчыцкі, Слуцкі |
| 17 уланскі | Купішкі | Граф Міхайла Тышкевіч | Віленскі, Завілейскі, Браслаўскі, Вількамірскі, Упіцкі, Расіёнскі, Шавельскі, Тэльшаўскі |
| 18 уланскі | Нясвіж | Граф Караль Пшэздзецкі | Менскі, Барысаўскі, Дзісненскі, Вілейскі, Ігуменскі, Бабруйскі, Мазырскі, Рэчыцкі, Слуцкі |
| 19 уланскі | Навагрудак | Канстанцін Раецкі | Ашмянскі, Троцкі, Ковенскі, Гарадзенскі, Лідскі, Навагрудскі, Слонімскі, Ваўкавыскі |
| 20 уланскі | Пінск | Ксавэры Абуховіч | Пінскі, Берасцейскі, Кобрынскі, Пружанскі, Беластоцкі, Бельскі, Драгічынскі, Сакольскі |

Увогуле дваццацітысячнае беларускае войска змагалася на баку Напалеона нядоўга. Першая сутычка з царскімі войскамі адбылася 20 кастрычніка 1812 года ля Слоніма, дзе стаяў перадвезены з Варшавы полк генерала Канопкі. Маладыя бязвусыя гвардзейцы былі пасечаны уланамі. Сам генерал Канопка, семнаццаць афіцэраў і больш за дзве сотні падафіцэраў трапілі ў палон.

Нялепшая доля напаткала беларускую пяхоту, стральцоў і уланскі полк, якія з-пад Вільні былі тэрмінова выкліканы абараняць Мінск. Гэтыя часці хуткім маршам рушылі на дапамогу рэштакам гарнізона пад камандаваннем французскага генерала Касецкага. 4 лістапада першымі дасягнулі гарадскіх застаў уланы. Яны не ведалі, што гарнізон ужо разбіты і горад заняло рускае войска. Беларускія уланы пайшлі ў атаку. Усе яны загінулі. Пяхота і стральцы, якія падаспелі на дапамогу уланам, таксама панеслі страты і пад націскам царскіх сіл вымушаны былі скласці зброю і здацца ў палон.

У Мінску засталося больш за дзве тысячы хворых і раненых салдат і афіцэраў напалеонаўскай арміі, вялікая колькасць армейскай маёмасці, боепрыпасаў і харчу.

Два палкі беларускай пяхоты далучыліся да адыходзячага ў Польшчу корпуса генерала Язэпа Панятоўскага. З ім яны дайшлі да Варшавы, а пасля бралі ўдзел у абароне Модліна.

Уланы двух другіх беларускіх палкоў увайшлі ў склад польскага палка пры корпусе генерала Макдональда і разам з ім сядзелі ў Гданьску.

На долю уланскіх палкоў Тышкевіча і Раецкага выпала цяжкая, але між тым пачэсная задача. Добра ўкамплектаваныя і ўзброеныя, яны павінны былі засланяць адыход праз Прусію да ракі Лабы маленькай жменькі змораных, галодных і слабых жаўнераў Вялікай Арміі, што засталіся жывымі. Гэтыя уланы прымалі на сябе ўдары царскай кавалерыі – казакаў і башкіраў. Нялёгкае заданне беларусы выканалі з гонарам, цаной жыцця. Рэшткі ўліліся ў корпус маршала Даву, былі ў Гамбургу, трапілі ў Гальштынію і Шлезьвіг, дзе і сталі з французскім войскам аж да Парыжскага міру. Мір гэты даў ім магчымасць вярнуцца спачатку ў Польшчу, дзе яны мусілі даслужыць два гады ў польскім войску пад камандай рускага цэсарэвіча Канстанціна (тагачаснага намесніка ў царстве Польскім), а пасля ўжо вярнуліся на Бацькаўшчыну ў родныя вёскі.

***Віктар ХУРСІК***
***(Па матэрыялах Нацыянальнай бібліятэкі і Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі)***

**P.S.** У табліцы паказаны склад беларускага войска імператара Напалеона Банапарта.



Шляхта Браслаўскага павета канца XVIII-пачатку XIX ст.

## Сакавік

**"Спадчына"**, культурна-асветны клуб (Мінск; 1984) – 20 гадоў з часу стварэння.

**"Маладзечанская сакавіца"**, рэспубліканскі тэатральны фестываль майстроў беларускай сцэны (1994) – 10 гадоў з пачатку правядзення.

1 – **Лекаў Іван** (01 ці 04.03.1904 – 1978), балгарскі мовазнавец-славіст, даследчык балгарска-ўсходнеславянскіх, у тым ліку і балгарска-беларускіх, моўных сувязяў – 100 гадоў з дня нараджэння.

1 – **Лось Еўдакія Якаўлеўна** (1929, Ушац. р-н – 1977), паэтэса – 75 гадоў з дня нараджэння.

1 – **Ялатамцава Ірына Міхайлаўна** (1929), мастацтвазнавец, даследчык беларускай мастацкай керамікі і скульптуры – 75 гадоў з дня нараджэння.

4 – **Лышчынскі Казімір** (1634, Брэсц. р-н – 1689), мысліцель, грамадска-палітычны дзеяч, педагог – 370 гадоў з дня нараджэння.

4 – **Такарэўскі Антон Рыгоравіч** (1904, Пружаны – 1984), майстар мастацкай керамікі – 100 гадоў з дня нараджэння.

4 – **Шведзік Генадзь Барысавіч** (1914, Бабруйск – 1942), яўрэйскі паэт – 90 гадоў з дня нараджэння.

4 – **Коршунаў Аляксандр Фаміч** (1924, Горац. р-н – 1991), літаратуразнавец, гісторык старажытнай беларускай літаратуры, тэкстолаг, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Коласа (1980) – 80 гадоў з дня нараджэння.

9 – **Дзежыц Валянцін Канстанцінавіч** (1904 – 1964), жывапісец, педагог – 100 гадоў з дня нараджэння.

9 – **Паражняк Тарас Мікалаевіч** (1924), мастак дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, педагог, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі – 80 гадоў з дня нараджэння.



*Фота Міхася ХАМЦА*

## Палешукі – у Бельгіі

Землякі (фальклорны ансамбль "Палеская зоры") пабывалі там на святкаванні жыхарамі горада Уі Дня франкамоўнай камуны – афіцыйнага свята Бельгіі. Яны пазнаёмілі бельгійцаў з беларускімі народнымі танцамі, песнямі, нацыянальнымі касцюмамі, а таксама і з сувенірамі, мастацка-рамеснымі вырабамі.

Мясцовая ўлада, грамадскасць наладзілі пасланцам Палесся цёплы прыём.

## Кобрынскія мысліцелі

Шахматы з даўніх часоў лічацца і навукай, і спортам, і мастацтвам, і цікавым заняткам тых, хто любіць засяроддзіца, мысліць, прымаць адказнае рашэнне, загартоўваць свой характар.

Прыклад гэтага паказваюць выхаванцы шахматнага аддзялення дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы з Кобрына, якія дабіваюцца значных поспехаў. В. Дырда і Я. Стральчук перамагалі на Алімпійскіх днях моладзі Беларусі, а летась Максім Ярамчук стаў чэмпіёнам краіны па шахматах сярод равеснікаў да 10 гадоў адпаведна, мае магчымасць выйсці і на міжнародную арэну.

Прыемна адзначыць, што юных шахматыстаў падтрымлівае мясцовая ўлада, натхняе іх на новыя вучобу, працу і поспехі.

## Дабужынскі – у Мінску

Мсціслаў Дабужынскі (1875–1957) – рускі мастак, у першай чвэрці XX стагоддзя ўзначальваў народную мастацкую школу ў Віцебску і стварыў шэраг жывапісных і графічных партрэтаў, археалагічных пейзажаў горада.

У 1929–1939 гады выкладаў у Мастацкай школе ў Каўнасе, афармляў спектаклі мясцовага тэатра.

16 лютага гэтага года ў Мінску ў Нацыянальным мастацкім музеі пачала працаваць выстава, падабраная фондамі Музея тэатра, музыкі і кіно Літвы. На ёй ахвотныя могуць пазнаёміцца амаль са 140 творамі сцэнаграфіі і эскізамі тэатральных касцюмаў, якія стварыў М. Дабужынскі ў вышэйназваны перыяд у Каўнасе.

*Ад дзядзькі Антося*

## Лісткі запісных кніжак




**Сакавік**

– Сёлета, калі такая своеасаблівая зіма, наш дачніцкі каляндар дужа мяняецца. Звычайна ў канцы лютага і на пачатку сакавіка я абгледжваў свае дрэвы і кусты, абразаў лішняе ці хворае. За апошнія тыдні снег абсеў, а то і растаў, ужо не па калена, як яшчэ нядаўна, – можна пахадзіць па сваім агародзе з пілачкай альбо сякатарам.

Варта спалучыць прыемнае і карыснае, – скажам, прыбраць снег ад дома (увесну талая вада можа прасачыцца ў пограб, доўга стаяць каля ганка), не зашкодзіць пракапаць сцежкі, а снег адкінуць на грады і пад дрэвы. Тыя грады, калі снегу было мала, прыходзілася яго захоўваць, накрываючы прыпасенымі з восені бадыллём, саломаю ці торфам і апілкамі.

На сонечным баку можна пасыпаць перакапаныя, угноеныя ўвосень грады тонкім слоем торфу, попелу і накрыць плёнкай, каб зямля там хутчэй адтала і нагрэлася – хутка можна будзе пасеяць там салату, кроп, пятрушку, радыску, пасадзіць крыху цыбулі для першай, вельмі патрэбнай вітаміннай зеляніны. Ды і моркву можна сеяць. У горадзе настае час актыўна сеяць першыя памідоры, баклажаны, фізаліс, пачынаць абзяленьваць на сонцы раннія гатункі бульбы, даваць ход парасткам. Некаторыя садзяць на расаду буракі, цыбулю, часнок, асцерагаючыся зацяжнога халоднага мая.

**Парады**

- Лёд з аконнага шкла лягчэй выдаліць, калі абмыць яго падсоленай вадою (2–3 лыжкі харчовай солі на 0,5 л вады). А каб вокны зімой не "плакалі", трэба неаднаразова працерці шкло анучай, змочанай гліцэрынай ці дэнатуратыным спіртам.
- Прыйшоў на сваё лецішча, трэба снег адкінуць, а шырокай лапаты-шуфля няма. Можна даволі хутка ўсё наладзіць самому: да віл прымацаваць кавалак фанеры.
- Снег вільготны, ліпне да лапаты. Каб ён аблятаў, трэба лапату змазаць стэарынам.
- Свае дрэвы дачнікі звычайна беляць вясной, найчасцей у маі, каб палюбавацца белізной стваалоў і першай зелянінаю на фоне першых кветак. Паверце старому, лепш за ўсё гэта рабіць хоць бы на пачатку сакавіка, каб ураватаваць ствалы, тоўстае голле ад сонечных апёкаў удзень і растрэсквання ад марозу ўначы. Пабелка заўсёды ёсць у крамах, а калі ў яе раствор дадаць крыху меднага купарвасу, што знішчыць альбо прагоніць шкоднікаў, якія зімуюць у кары. Можна пабелачным "малачком" абпырскаць і кроны дрэў.
- Хутка пачнецца ладзіць на лецішчах парнікі, гэта значыць ужываць і леташнюю, тонкую, але падсохлую ўжо драўніну, выкарыстоўваць і невялічкія цвічкі. Іх, бывае, нялёгка ўтрымаць ды забіць, то можа часта даставацца малатком па пальцах. Каб не здарылася гэта непрыемная рэч, цвічок спачатку лёгка забіце ў кардон, каб ён утрымаўся. Пасля цвік лёгка заб'ецца ў дрэва, а кардон можаце абарваць.

*Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ*

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Працяг. Пачатак у № 1 за 2003 г.)*

**Архівы** (лац.) – навукова-даследчыя ўстановы (або аддзелы ў іх), якія збіраюць, зберагаюць і выкарыстоўваюць дакументальныя матэрыялы, а таксама сукупнасць дакументаў, якая ўтварылася ў працэсе дзейнасці ўстаноў, прадпрыемстваў, арганізацый, таварыстваў, прыватных асоб. Як збор крыніц архівы выкарыстоўваюцца для навуковых даследаванняў і практычных патрэб народнай гаспадаркі, культуры і дзяржаўнага кіравання.

Архівы заводзіліся з самых даўніх часоў. Помнікі пісьменнасці (клінапісныя надпісы на гліняных табліčках, камянях) III–IV стагоддзяў да н.э. знойдзены ў Закаўказзі на землях былой рабаўладальніцкай дзяржавы Урарту. Ад антычных гарадоў паўночнага Прычарнамор'я (VI–V стагоддзі да н.э.) захаваўся гэтак званы "мармуровы архіў". Выяўлены пісьмовыя дакументы старажытных дзяржаў Сярэдняй Азіі (I стагоддзе да н.э. – X стагоддзе н.э.). Захавалася больш за 23 тысячы старажытных армянскіх рукапісаў. Самы буйны архіў ранняга сярэднявечча ў Заходняй Еўропе – Ватыканскі архіў (узнік у IV стагоддзі і цяпер з'яўляецца адным з унікальных архіваў па гісторыі сярэднявечнай Еўропы (дарэчы, у 2003 годзе "Краязнаўчая газета" надрукавала шэраг матэрыялаў з Ватыканскага архіва ў перакладзе з лацінскай мовы на беларускую, прысвечаных каранацыі Міндоўга ў 1253 годзе і пазнейшай яго дзейнасці). У Старажытнай Русі першыя архівы заводзіліся ў княжацкіх замках, манастырах і цэрквах. У Вялікім княстве Літоўскім найбольшы архіў быў пры канцылярыі вялікага князя – Літоўская метрыка, дакументы якой за XV – XVI стагоддзі на беларускай мове, а больш познія на польскай і лацінскай, – важная крыніца для вывучэння гісторыі культуры Беларусі (усіх кніг гэтай метрыкі больш за 600, яны цяпер захоўваюцца ў Маскве, каля дзесяці з іх нядаўна перавыдадзена і рыхтуецца да друку, а перавыданне астатніх спатрэбіцца не адзін дзесятак гадоў). У рускай цэнтралізаванай дзяржаве на аснове архіваў старажытнарускіх княстваў у Маскве ў XVI стагоддзі ўзнік Царскі архіў. Пачаткам архіўнай справы ў Расіі лічыцца 1712 год, калі Пётр I абавязаў зрабіць храналагічны вопіс усіх спраў у сенаце і здаць іх у архіў.

Яшчэ да падзелу Рэчы Паспалітай і пазней многія асноўныя архівы з беларускіх устаноў былі вывезены, трапілі ў архівы розных краін свету; мясцовыя архівы ў Беларусі пад імперскім скіпетрам пачалі з'яўляцца ў другой палове XIX стагоддзя. Для выдання старажытных дакументаў у Вільні з 1864 года (пасля падаўлення паўстання К. Каліноўскага) дзейнічала спецыяльна створаная Віленская археаграфічная камісія, а з 1909-га – Віцебская вучоная архіўная камісія.

У 1918 годзе Савецкі ўрад выдаў дэкрэт, згодна з якім былі скасаваныя ўсе ведамасныя архівы і заснаваны Адзіны дзяржаўны архіўны фонд. Архіўнай справай у СССР кіравала Галоўнае архіўнае ўпраўленне пры Савеце Міністраў СССР. Архівы былі самыя розныя, і розны быў да іх доступ (былі і спецховы, да якіх допускаліся даследчыкі толькі па спецдазволах). З 1956 года архіўныя установы сталі членам Міжнароднага савета архіваў, які быў заснаваны ў 1948 годзе.

Шмат дакументальных матэрыялаў па гісторыі, культуры Беларусі і цяпер знаходзяцца ў архівах Масквы, Санкт-Пецярбурга, Вільні, Кіева, Львова, Рыгі, Смаленска, у архівах Польшчы, Германіі і г.д.

*(Працяг будзе.)*

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасны – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Першы нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6.
Тэл. 283 28 26.
E-mail: kraga@tut.by

Аб'ём рукапісаў не павінен перавышаць 10 с.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 04.02. 2004.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7.
Заказ 414.
Тыраж 1050.